РУНЬ
ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ
ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT
19 ліпеня 2002 № 48 кошт 1 літ

# Там, дзе мяне няма...



*Уладзімір Караткевіч у ролі хана-крымчака ў фільме "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". З фотаархіву Галіны Войцік.*

# Паабапал Кітайскага мура

Пра Кітайскі мур ведаюць усе на сьвеце, і ведалі не адно тысячагодзьдзе. Як-ніяк, масыўная спаруда даўжынёю 2, 5 тыс. кілямэтраў аддзяляла Кітай ад дзікіх мангольскіх плямёнаў. Аднак гэта Кітай, які быў і застанецца вялікай краінай, насельніцтва якой у 300 разоў перавышае колькасьць жыхароў Літвы, і нават у 6 разоў – ЗША... Літва ў Эўропе лічыцца сярэдняй краінай, а ў сьвеце – маленькай. Праўда, у часы сярэднявечча сучасная Літва ўваходзіла ў склад магутнага Вялікага Княства Літоўскага Рускага й Жамойцкага, зь якім лічыліся ва ўсім сьвеце. За савецкага часу Літва, як і іншыя савецкія рэспублікі, "рэспублікаю" была толькі на мапе, створанай у Крамлі. На Захадзе, нават у Польшчы, усіх нас, хто варыўся ў вялікім савецкім катле, уважалі за "рускіх" або "савецкіх". Для самых-жа савецкіх людзей Прыбалтыка (а гэта Літва, Латвія й Эстонія) была Захадам. Тут усё было пастаўлена лепш, гаспадарку Літвы, асабліва сельскую, прыраўноўвалі нават да галяндзкай і дацкай. Сюды прыяжджалі вучыцца гаспадарыць, асабліва – у саўгас "Майшагала" пад Вільняй. Дарогі, масты, фабрыкі й заводы будаваліся, як мае быць. Усе мелі работу. Рускіх, хаця й не любілі, але шанавалі: як-ніяк, гэтай камуністычнай сыстэмай кіраваў Крэмль, а не якаясь там Варшава або Менск.

Напрыканцы XX ст., нечакана для ўсяго сьвету й нават для жыхароў савецкіх рэспублікаў, Савецкі Саюз, з падачы Масквы й безь вялікіх войнаў і праліцьця крыві, разваліўся. Развалілася і ўся савецкая сыстэма. У гэтым вялікім гармідары адныя выйгралі, а іншыя прайгралі. За першыя гады незалежнасьцяў некаторыя (адзінкі) набілі сабе кішэні мільёнамі, а не дык і мільярдамі даляраў, астатнія атрымалі "пшык" (як кажуць у нас тут, адсунулі іх ад карыта). У перадзеле маёмасьці пацярпелі сотні тысячаў людзей. Калі гаварыць пра Літву, дык гэтае асабліва тычыцца жыхароў літоўска-беларускага памежжа. А літоўска-беларуская граніца ёсьць немалая, як-ніяк 724 км. з 1747 км. усёй літоўскай граніцы (42 %). Без дайпрычыны мы, тутэйшыя жыхары або проста – "тутэйшыя", парабіліся эмігрантамі, нацыянальнымі меншасьцямі, лішнімі людзьмі, суцэльна безработнымі. Пасьля 10-гадовага пэрыяду "дзікага капіталізму" эканоміка нашай краіны падарваная, фабрыкі й заводы разваленыя, зямля ажно да Балтыйскага мора зрабілася цаліною, бо зьбяднелае сялянства, хоць і атрымала надзелы, маюць сілы абпрацаваць толькі "палосу каля носу" – невялічкі кавалак зямлі каля хутара, дзеля выжываньня (дарэчы, ці можна такіх людзей лічыць не безпрацоўнымі?). Таленавітая моладзь падалася ў пошукаў працы на Захад.

*Працяг на старонцы 3*



*Суботнікі. Чэрвень 2002 г.*

**15. Вяртаньне ў Вільню й новае падарожжа ў Нямеччыну. Пра Алесю Смоліч і Паўліну Мядзёлку. Праца ў двух унівэрсытэтах. Пра Ўладзіміра Караткевіча.**

У Нямеччыне быў якраз час перад Калядамі, і паўсюль адчуваўся сьвяточны настрой. Ва ўстановах, у магазынах віселі вянкі зь яловых лапак, аздобленыя яблыкамі, гарэхамі, стужкамі, або сталі кампазыцыі зь яловых лапак і кветак, абавязкова са сьвечкамі. У гародчыках перад дамамі ёлкі былі ўпрыгожаныя гірляндамі рознакаляровых лямпачак. Ладзіліся перадкалядныя кірмашы...

23 сьнежня мы вярнуліся зь Нямеччыны ў Вільню. Тут ніякага сьвяточнага настрою не было, хаця, незважаючы на ўсю сталінскую прапаганду, каталікі-літоўцы, палякі ды беларусы ладзілі Куцьцю, упрыгожвалі ёлкі. 25 сьнежня, на першы дзень Каляд, быў звычайны рабочы дзень, аднак і выкладчыкі, і студэнты былі ў гуморы. Афіцыйна ёлку ў горадзе ставілі 31 сьнежня, перад Новым годам. Высокая ёлка стаяла на Катэдральнай плошчы, удзень яна выглядала не дужа прыгожа дзеля папяровых „аздобаў", балёнаў і пад., але ўвечары загараліся шматкаляровыя гірлянды зь лямпачак, каля ёлкі зьбіраліся і дарослыя, і дзеці, танцавалі ці проста любаваліся лясной прыгажуняй.

Пасьля Новага году пачыналася сэсія, а тады 2 тыдні канікулаў „для студэнтаў", як зазвычай гаварылі нам, выкладчыкам. Аднак у інстытуце работы не было, і нас не змушалі прыходзіць кожнага дня. Паседжаньне катэдры бывала перад пачаткам новага сэмэстру. А там зноў звычайная праца: лекцыі, сэмінары, практычныя заняткі, канфэрэнцыі, падрыхтоўка навуковых артыкулаў. Я была сябрам рэдкалегіі часопіса „Kalbotyra" („Моваазнаўства"), адказвала за сшытак замежных моваў і мне даводзілася рэдагаваць шмат артыкулаў, якія паступалі ў часопіс: некаторыя адкідалі, адсылалі на дапрацоўку. Нашая загадчыца катэдрай Левітэне абараніла дысэртацыю, і мы зь ёй разам уваходзілі ў камісію прыёму кандыдацкіх экзаменаў зь нямецкай мовы, старшынём якой быў праф. Пранас Буцкус. Так што работы хапала.

У свабодны час зьбіраліся сябры: на каляды ў Каралёў, на Вяліндзень у Зоі Каўшанкі, адзначалі народзіны Лявона Луцкевіча, Леваніда Караля й заўсёды мамы — 30 верасьня. Улетку езьдзілі або ў Трокі, або на Зялёныя вазёры, або яшчэ куды-небудзь. Ваколіцы Вільні вельмі маляўнічыя, і заўсёды знаходзілася нешта новае, непазнанае.

У сакавіку 1967 г. я зноў паехала ў Нямеччыну. Гэтым разам была камандыроўка з Усесаюзнага міністэрства вышэйшай асьветы. Мы зь Левітэне паехалі ў Маскву, там дасталі загранічныя пашпарты й білеты на цягнік у Бэрлін. У Бэрліне нас чакала машына, і мы паехалі ў Эрфурт. Пасялілі нас у Эрфурце ў цэнтры гораду ў гатэлі. Раніцою, калі я выйшла на балькон, перад мною раскінулася панарама Эрфурту, сьпічакі касьцёлаў і кірхаў, лясы на небасхіле.

Вышэйшая пэдагагічная школа, у якой мы мелі працаваць, месьцілася на ўскрайку гораду, за будынкамі школы раскінуліся палі кветках. Праўда, была ранняя вясна, і мала што цьвіло. Я вяла сэмінары з гісторыі нямецкай мовы. І першае, што мне сказалі студэнты, было: „А навошта гэта нам?" Я не зьдзівілася-б, калі-б гэта гаварылі нашыя студэнты, для якіх нямецкая мова была чужой, але самыя немцы... Я пачала гаварыць пра сярэдняевечную нямецкую літаратуру, народны эпас, рыцарскія раманы, лірыку. Прачытала нават на памяць пачатак „Песьні пра Нібелунгаў" і пару вершаў Вальтэра фон дэр Фогельвайдэ й неяк наладзіла кантакт са студэнтамі, заняткі праходзілі нармальна.

З Эрфурту мы паехалі ў Ляйпцыг, пасьля ў Дрэздэн. І зноў былі лекцыі са студэнтамі, кансультацыі з выкладчыкамі. Тым годам стаяла вельмі цёплая й ранняя вясна. У Дрэздэне цьвілі фарсыцыі й магноліі, было 25 градусаў цяпла. Мы мелі магчымасьць наведаць мастацкую галерэю ў адбудаваным палацы Zwinger. Як вядома, Дрэздэн быў цалкам зьнішчаны амэрыканскімі бомбамі падчас „дывановых" налётаў ноччу 13 лютага 1945 г. Увесь горад ляжаў у руінах, пасьля былі збудаваныя новыя дамы, але Zwinger, палац у стылі ракако, адбудавалі дакладна такім, якім ён быў. У галерэі мы даўжэй прастаялі перад „Сэкстынскаю мадонаю" Рафаэля.

З Дрэздану паехалі ў Бэрлін, дзе маглі пабыць яшчэ 2 дні перад ад'ездам. Было нават горача — 27 градусаў, нечым дыхаць. Вярталіся зноў у зіму, ужо ў Польшчы на ўсходзе ляжаў сьнег, а ў Маскве быў сьнег і мароз. У Вільню вярнуліся першымі днямі красавіка. І нас знoўку сустрэла вясна — цьвілі падсьнежнікі, пралескі, крокусы.

Летам 1967 г. да мамы прыехала Алеся Смоліч. Мама ведала яе яшчэ зь Менску, а яшчэ лепш ведала ейнага мужа Аркадзя Смоліча, які штодня бываў у „Беларускай хатцы". Алеся Смоліч пражыла нялёгкае жыцьцё, была з мужам на высылцы. У 1937 г. Аркадзь Смоліч быў арыштаваны, а ў 1938 — расстраляны. Алеся з прафэсіі была настаўніцаю, пасьля сьмерці мужа працавала ў Омску, а пасьля пераехала з малодшаю дачкою й ейным мужам на Украіну, пад Кіеў. Цяпер гэта была 70-гадовая высокая поўная жанчына, зь сівымі валасамі. У параўнаньні зь ёй мама здавалася яшчэ меншай. Яны шмат гаварылі, дзяліліся пражытым і перажытым.

Прыязджала таксама Паўліна Мядзёлка. Яны пазнаёміліся з мамай у Менску ў 1917 г., але не сябравалі. Цяпер Мядзёлка захацела паехаць у Вільню, прайсьціся сьцяжынамі сваёй маладосьці. Нехта даў ёй наш адрас, яна напісала, а пасьля й прыехала . Яна сама хадзіла па Вільні, успаміна-ла, толькі на магілкі Росы паехала з мамай і Верай Ніжанкоўскай. Яны наведалі магілы Ядвігіна Ш., Л. Вітан-Дубейкаўскага, Казіміра Сваяка. Пра Мядзёлку я ўжо пісала („Рунь" № 16).

З восені 1967 г. я пачала працаваць таксама й ва Ўнівэрсытэце. Гаворка пра тое, што захварэла выкладчыца Мейксіна, яна была калісь і маёй выкладчыцай, кіравала маёй дыплёмнай працай — вось яна й папрасіла замяніць яе. Адмовіць не выпадала. Я чытала курс тэаэтычнай граматыкі й гісторыю нямецкай мовы на стацыянары й вячэрнім факультэце. Працаваць увечары было цяжка, студэнты, людзі розных прафэсіяў, прыходзілі пасьля работы, зморыныя, а, напрыклад, лекцыя тэарэтычнай граматыкі доўжылася ад 21.00 да 22.30. Што тут ужо вымагаць ад студэнтаў, да іх проста не даходзіў сэнс лекцыі.

*Працяг на старонцы 3*



## Галіне Войцік – 75!

Шаноўная спадарыня Галіна! Рака часу, якая ўсе падзеі й здарэньні пераўтварае ва ўспаміны, у кожнага – свая. Плынь Вашага жыцьця не была роўнай і спакойнай, але Вы, як і ўся Ваша сям'я Войцікаў-Луцкевічаў, годна вытрымалі ўсе цяжкасьці гэтага падарожжа, любыя нечаканасьці, наканаваныя лёсам. Вы сталіся ўзорам сапраўднага беларускага інтэлігента, сэрцам далучанага да ўсіх справаў Бацькаўшчыны-Беларусі. Дачка выдатнай пісьменьніцы Зоські Верас, выхаванка легендарнай Віленскай Беларускай Гімназіі, верная спадарожніца жыцьця Лявона Луцкевіча, – Вам ёсьць пра што ўспомніць, пераказаць маладзейшым непаўторную атмасфэру свайго часу, – што Вы з посьпехам і робіце ў шматлікіх артыкулах і біяграфічных нарысах. А колькі-ж людзей з удзячнасьцю ўспамінаюць Вашу пэдагагічную працу ў Віленскім пэдунівэрсытэце, колькі мае слухачоў Ваша беларуская перадача на Літоўскім радыё! І ці-ж можна забыцца на чароўны садок пры "Лясной хатцы", узгадаваны Вашымі руплівымі рукамі... Няхай-жа ніколі не перацьвітаюць кветкі Вашай душы. Віншуем Вас з нагоды слаўнага юбілею й зычым доўгіх і шчасьлівых гадоў жыцьця!



*Апошні званок празьвінеў у Віленскай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны. Сёлета школу заканчваюць 22 вучні. Цяпер іх чакаюць іспыты, але ўжо ў сакавіку 11 вучняў прайшлі "іспыты" ў камісіі Міністэрства культуры РБ і залічаныя ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, дзе яны пажадалі вучыцца мэдыцыны, замежных моваў, эканомікі. Посьпехаў вам, хлопцы й дзяўчаты!*

## Прэмія імя Б. Кіта 2002 г.

Была ўручаная ў Вільні 6 чэрвеня пісьменьніку Алегу Мінкіну й журналісту Валеру Каліноўскаму зь Менску. Уручэньне адбывалася ў старажытных скляпеньнях музэю А. Міцкевіча. За доўгім сталом сядзелі Лідзія Савік, аўтарка шматлікіх публікацыяў і дыхтоўнай кнігі пра акадэміка Барыса Кіта "Космас беларуса", беларусы з Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, прадстаўнікі беларускай дыяспары Літвы, беларуская й літоўская студэнцкая моладзь зь Вільні. Вітаў прысутных кіраўнік Фонду Барыса Кіта праф. Ёганес Шлоотц, які распавёў пра незвычайнага нашага суайчыньніка, сусьветна вядомага вучонага, акадэміка, знанага на эміграцыі беларускага грамадзкага дзеяча й патрыёта Барыса Кіта. Барыс Кіт, паводле словаў выступоўцы, зрэалізаваў свае магчымасьці навукоўцы менавіта ў вольным сьвеце, які зрабіў яго чых вольных краінаў. Відавочна, што Беларусь вельмі багатая на таленты, якімі збольшага дагэтуль карысталіся й карыстаюцца блізкія й далёкія краіны, выцягваючы з Бацькаўшчыны залатыя рукі й сьветлыя розумы. Самая Радзіма яшчэ не выкарыстоўвала іх напоўніцу. Але мяняецца сьветапогляд і сьвядомасьць беларусаў, многія з нашай маладой генэрацыі хочаць працаваць у вольнай і для вольнай Беларусі. Барыс Кіт дасягнуў найвышэйшых вяршыняў у навуцы, ніколі не адмаўляючыся й нават падкрэсьліваючы сваю беларускасьць. Тым самым ён узьняў на арбіту і Беларусь, і да сёньня, не зважаючы на сталы век (ён-жа амаль равесьнік XX ст.!), Барыс Уладзіміравіч рупіцца пра будучае Бацькаўшчыны, напрыклад, стварыўшы фонд падтрымкі маладых ды пэрспэктыўных талентаў. Мы верым, што хутка, дзякуючы намаганьням Барыса Ўладзіміравіча



*Праф. Вольнага ўнівэрсытэту ў Бэрліне Ёганес Шлоотц уручае прэмію Барыса Кіта журналісту зь Менску Валеру Каліноўскаму. Вільня, 6 чэрвеня 2002 г.*

грамадзянінам Сусьвету, падняў на касьмічную арбіту. Лідзія Савік, першая лаўрыятка прэміі Б. Кіта, распавяла пра свае сустрэчы з вучоным, якія перарасьлі ў шчырае сяброўства. (Заўважым тут, што менавіта Л. Савік найбольш спрычынілася да таго, што імя Барыса Кіта вярнулася ў Беларусь). Сп. А. Мінкін таксама ўзгадваў пра свае ўражаньні ад сустрэчы з Б. Кітам, казаў, што наш знакаміты суайчыньнік ніякі не "сухар"-вучоны, а жыцьцярадасны, просты ў абыходжаньні чалавек, каторы заряджае сваёю энэргіяй кожнага суразмоўцу. Другі лаўрэат, сп. В. Каліноўскі, дзівіўся з працаздольнасьці й чалавекалюбства Барыса Ўладзіміравіча Кіта. І ўсе прысутныя на ўрачыстасьцях, пагадзіліся з тым, што на яскравым прыкладзе жыцьця й ўсебаковай дзейнасьці нашага славутага акадэміка ("кіта", якому, паводле досьціпу А. Мінкіна, адзінаму ў сьвеце пашэньціла пабываць у космасе), будзе вучыцца не адно пакаленьне беларусаў, што нашая Бацькаўшчына калі-небудзь, падобна да Барыса Кіта, узьнімецца да сусьветнай арбіты квітнеюй сотням такіх, як ён, нашая краіна-мэтраполія будзе вядомая ня толькі сваімі балотамі, бульбай і таннай гарэлкай, але й працавітымі таленавітымі навукоўцамі, высокімі тэхналёгіямі, каторыя выведуць Беларусь у шэраг самых інтэлектуальных дзяржаваў сьвету... Доўга таго вечару ўспаміналі й іншых беларусаў, якіх лёс расьцерушыў па цэлым сьвеце й якія ня толькі выжылі самі, але й пакінулі незабыўны сьлед ў інтэлектуальным і духовным жыцьці сваіх новых радзімаў.

**Павал Саўчанка**



*Вакальны ансамбль "Лянок" Віленскай школы імя Ф. Скарыны, а таксама вучні 10 кл., пераможцы рэспубліканскага экалягічнага праекту, разам з настаўніцамі Валянцінай Кавальчук і Галінай Вінцукявічэне пабывалі ў Менску. Запрасіла нас Джяржаўная навуковая ўстанова "Цэнтральны батанічны сад" – для ўдзелу ў юбілейных мерапрыемствах з нагоды 70-годзьдзя Батанічнага саду. Нас вельмі цёпла сустрэлі, арганізавалі экскурсію, паказалі самыя маляўнічыя куткі. У свой чарод, мы падаравалі гаспадарам выступленьне нашага "Лянка". А па дарозе ў Менск пад кіраўніцтвам нашага вадзіцеля й гіда Станіслава Махнача завіталі ў Крэва, на руіны старажытнага замка.*

**Валянціна Кавальчук**

## Крыжовая Дарога

або Малая Кальварыя – пад такой назвай на базе прыватнага краязнаўчага музэю "Засьцянковая хатка" 29 чэрвеня у засьценку Вашунава Докшыцкага раёну была праведзеная імпрэза, прысьвечана 10-годзьдзю стварэньня ТБМ Віленскага краю й 60-годзьдзю старшыні Таварыства Юрыя Гіля. Адбылася імпрэза якраз на Пятроў дзень, таму на яе сабралася таксама шмат імяніньнікаў: Пятрусёў, Паўлоў ды Пятровічаў. Апрача мяйсцовых жыхароў на сьвята прыехалі госьці зь Вільні, Менску, Віцебску, Санкт-Пецярбургу. Пачалася імпрэза з абыходу 14-ці стацыяў Крыжовага Шляху Езуса Хрыста, дзе былі ўстаноўленыя адпаведныя абразы. Разам з прысутнымі па гэтым Крыжовым Шляху йшоў і маліўся айцец уніят Іван Даўкшыс, каторы з гэтай нагоды прыехаў зь Вільні. Крыж ад стацыі да стацыі нёс 84-гадовы беларус Стась Шантыр, а побач зь ім нясьлі сьвечкі мяйсцовыя хлопчыкі й дзяўчынкі. Чытаньне ля стацыяў рабіў Юры Гіль. Айцец Іван асьвенціў крыж сьвянцонаю вадою з ракі Ёрдан, запаліў сьвечку, прывезеную зь Віфлеема. Гэта было сымбалічна і ўрачыста. Потым пачаліся гуляньні. Дарэчы, зь сямейства Гілёў ужо даўна зарганізаваны ансамбль. Вельмі прыгожа сьпявалі брат і сястра Генюсь і Рыта Гілі, не адставала ад іх і дваюрадная сястра Люда Русалоўская. Шчыра й са спрытам гралі на гармоніку браты-блізьняты Пятрусь і Павал Мехавічы.

**Валянціна Грыневіч**

## У Вільню

завітаў цікавы вандроўнік-беларус з Аўстраліі Слава Жук, які жыве ў гэтай далёкай краіне каля 2 гадоў. Кагадзе ён пабываў у Амэрыцы, Заходняй Эўропе, а цяпер, празь Літву, паедзе ў Азію, а адтуль на новую сваю радзіму – у Аўстралію. У Вільні ён наведаў мясьціны, зьвязаныя са Скарынам, Купалам, Каліноўскім, нашаніўцамі, Тарашкевічам ды інш. Госьць заўважыў, што дзяржава клапоціцца пра вонкавы выгляд сталіцы, але мала зьвяртае ўвагі на жыцьцё простых грамадзянаў. І, сапраўды, госьцю ў нашае вандроўкі па Вільні шмат траплялася жабракоў, бамжоў, якія корпаліся ў кантэйнэрах для сьмецьця, проста людзі з галоднымі вачыма. Ён распавёў мне пра адносіны да сваіх грамадзянаў у Аўстраліі. Там у асаблівай пашане дзеці й старыя, для іх прадугледжаныя шматлікія ільготы, сапраўдная, а не дэкляраваная ўвага да гэтае катэгорыі людзей робіць іхнае жыцьцё прыстойным і годным. Вось чаму шмат эмігрантаў імкнецца патрапіць менавіта ў Аўстралію, асабліва гэта тычыцца жыхароў Азіі. Вандроўнік распавёў, што аўстралійскія беларусы сочаць за падзеямі на Бацькаўшчыне, чытаючы газэту "Рунь", якую знаходзяць цікавай, зьместоўнай, аб'ектыўнай, нацэленай на ўмацаваньне дэмакратычных каштоўнасьцяў.

**Павал Саўчанка**

## Самаволя ўраднікаў ня ведае межаў

Як нам вядома, паводле распараджэньня мэра Віленскага раёну спн. Л. Янушаўскене у Сьвіранах была сарваная мэмарыяльная таблица, прысьвечаная памяці вялікага сына беларускага народу Францішака Багушэвіча. Факт ёсьць абуральны, бо постаць Ф. Багушэвіча для ўсіх беларусаў ёсьць амаль што сьвятая. Быў ён удзельнікам паўстаньня 1863-64 гг. і ахвяраю паразы паўстаньня. Паэт Ф. Багушэвіч быў бацькам белпроускага адраджэньня й гарачы абаронцам беларускай мовы. Ягоныя творы былі вельмі папулярныя ў міжваенным часе. Мы абураныя самаволяю мяйсцовых уладаў, каторыя замест дапамогі ў такой справе, як інфармаваньне грамадскасьці пра вялікага сына віленскай зямлі, адвакаце й абаронцы простых людзей, – зьдзейсьнілі акт вандалізму, што не спрыяе добрасуседзкім адносінам.

***Старшыня ТБМ Хведар Нюнька***

*"Nasz Czas" № 25 (564)*

# Паабапал Кітайскага мура

*Працяг са старонкі 1*

Літва тымчасам імкнецца ў НАТА, у Эўразьвяз, прынамсі, такая палітычная воля большыні літоўскіх палітыкаў. А суседка-Беларусь, наадварот, стаўшы на калені перад Крамлём, просіцца уступіць у якісьці "саюз" ці хаця-б у "саюзік". А там не бяруць – сваіх клопатаў стае, дый, пэўне, і ня возьмуць ніколі, бо й там абрыдзеў такі саюз, якім ён быў.

А калі зазірнуць у гісторыю, дык напачатку XV ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае й Жамойцкае дасяга плошчы 1 млн. кв. км. (гэта амаль у тры разы больш, чым тэрыторыя сучаснай Польшчы). Дзяржаўнаю моваю ў ВКЛ была старабеларуская мова, наш суайчыньнік кароль Ягайла не саромеўся яе, ня езьдзіў у Крэмль, у Маскву, ці ў Белы Дом, у Вашынгтон, і не прасіўся, каб яго прыйнялі да якога-небудзь кагалу, як гэта робяць цяпер адныя, другія ды трэція, каторыя без партыі або без якогась кагалу – жыць ня могуць.

Што-ж тычыцца стольнага горада Вільні, дык ён сёньня, як Ватыкан у Рыме, як Канстантынопаль у Візантыі, як Масква ў Расеі. А трэба-ж далей ад'ехацца ды паглядзець, як людзі жывуць. Напрыклад, паедзеш у Польшчу, а там цябе, як і даўней, называюць "рускім", у Беларусі кажуць, што "літовец" прыехаў, а ў Літве нас называюць "гудасамі", "балтарусамі". Так было, так і ёсьць. Дык хто-ж мы, напраўдзе, ёсьць?

Паходжу я з-пад самай мяжы, з Суботнікаў, што апынуліся цяпер на тэрыторыі Беларусі ў 16 км. ад Дзевянішскага "апэндыкса" (пісаў ужо пра гэтую дзіўную "анамалію" ў "Руні" № 46). Сёньня пражываю ў Літве, у Майшагале, недалёка ад Вільні. Нас тут многа такіх з прыгранічных мясцовасьцяў Гарадзеншчыны, каталікоў, якія запазісваліся пераважна палякамі, а некаторыя адзінкі й беларусамі. Аднак усіх нас аб'ядноўвае тое, што спакон вякоў нас цягнула да сябе Вільня: праца, навука, гандаль, Вострая Брама, Кальварыя, традыцыя, гісторыя, звычаі, нашыя сьвятыя, сьвяты... Мы – аўтэхтоны Віленскага краю, беларускапольска-моўныя (моладзь цяпер ведае й літоўскую мову). Мы – "тутэйшыя". (Відаць з той нагоды сябе называем так, што страцілі гістарычную памяць, нацыянальны гонар). Хто з нашых, дый у сумежных краінах ведае сёньня, што Ё. Пілсудзкі й А. Міцкевіч з нашай зямлі паходзяць? А такіх, як яны, тысячы: з-пад Наваградку, Ліды, Ашмянаў, Гордні. Хто-ж можа паверыць, што Чэслаў Нёман (Выджыцкі), знакаміты польскі сьпявак, зь мястэчка Васілішкі з-пад Ліды, школу тут закончыў, а Тадас Іванаўскас, знакаміты літоўскі навуковец, зь Лябёдкаў, таксама пад Лідай. А ці ведаеце, скуль паходзяць С. Манюшка, К. Агінскі, Я. Булгак, Е. Путрамант, Т. Касьцюшка, Б. Радзівілянка? Хто стварыў дынастыю Ягелончыкаў ды ваяваў на Монта-Казыно? Колькі-ж наш край даў выбітных навукоўцаў, літаратараў, спарцмэнаў, палітыкаў Расеі, Польшчы, Літве, нават ЗША, Ізраілю, Аўстраліі й Паўдзённай Амэрыцы?

З такімі думкамі-развагамі ехаў я ў Беласток на міжнародную канфэрэнцыю "Трансгранічнае супрацоўніцтва беларусаў Польшчы й Літвы", арганізаваную Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь (Беласток) і Віленскім цэнтрам грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі". Чытаючы прэсу, слухаючы радыё й гледзячы тэлеперадачы, наконт гэтай праблемы маеш адно паняцьце, а тут здарылася нагода паразмаўляць з жывымі людзьмі, якіх гэта хвалюе, на сваё вочы пабачыць, што адбываецца ў суседняй з намі Беласточчыне, параўнаць жыцьцё тамтэйшых жыхароў з жыцьцём супляменьнікаў у Літве ды Беларусі. Адным словам, надарылася нагода зазірнуць у глыбінку Ўсходняй Польшчы, а не ў сэймы, бары ды рэстарацыі, ды зрабіць выснову, дзе хто жыве лепш, дзе ёсьць хоць якая дэмакратыя, а дзе ёю яшчэ й ня пахне.

Вось пра гэта й гаварылася на канфэрэнцыі. Цэлы блёк выкладаў мелі польскія ўдзельнікі канфэрэнцыі, сярод якіх было нямала прафэсыйных навукоўцаў. Напрыклад, Яўген Мірановіч падрабязна распавёў пра беларускую нацыянальную меншасьць у Польшчы й ейных праблемах пасьля Другой сусьветнай вайны, пра масавы адыход сялянскага жыхарства ў гарады, пра занепад сельскай гаспадаркі на Беласточчыне. Шмат дэбатаў выклікалі зьмястоўныя даклады др. гб. Рышарда Гарадэнскага, праф. Вышэйшай эканамічнай школы ў Беластоку, і др. Цэцыліі Садоўскай-Снарскай, выкладчыцы той самай школы. У іхных дакладах была закранутая балючая сёньня для Польшчы дэмаграфічная праблема й праблема беспрацоўя (асабліва для Беласточчыны – тут налічваецца 150 тыс. беспрацоўных), што й выклікала гарачую дыскусію прысутных. А, наогул, я дзівіўся, як востра й граматна нашыя супляменьнікі зь Беласточчыны ставілі беларускае нацыянальнае пытаньне, вырашалі праблему мясцовай улады ў сваім краі. Вельмі прыемна ўразіла, што амаль паўсюль, дзе на Беласточчыне кампактна пражывае беларускае насельніцтва, мясцовую ўладу трымаюць у сваіх руках беларусы, што, безумоўна, спрыяе захаваньню нацыянальнай індэнтычнасьці беларусаў Польшчы й плённа ўплывае на дабрабыт мясцовага насельніцтва. Зрэшты, у нашым Віленскім краі (ці, як яго цяпер называюць, ва Усходняй Літве) ў Салечніцкім ды Віленскім раёне аналягічная сытуацыя: тут уладу трымаюць "тутэйшыя". Штопраўды, выступаюць яны пад польскім гаслам і маюць маральную дый, напэўна, і матар'яльную падтрымку Мацежы-Польскі. Тады як беларусы Беласточчыны змагаюцца за ўладу ў самакіраваньнях дый, наогул, за беларушчыну, без аніякае падтрымкі зь Менску. (Думаю, у афіцыйным Мінску толькі парадаваліся-б, каб на Беласточчыне не было ніякіх беларусаў).


Літоўскія дэлегаты на канфэрэнцыі "Трансгранічнае супрацоўніцтва беларусаў Польшчы й Літвы". Беласток, 6 ліпеня 2002 г.


Музыкі перад стадолаю Аляксандра Бажко. 5 ліпеня 2002 г.

Такія вось невясёлыя, зрэшты, думкі нарадзіліся ў мяне ў часе работы канфэрэнцыі. Аднак колькі можна пра невясёлае? Пасьля цяжкой працы арганізатары зладзілі добры, на даўнейшы стыль, адпачынак-пачостку ў Ліповым Мейсьце (20 км ад Беластоку) у аграгурыстычнай сядзібе гаспадара Аляксандра Бажко. Адпачывалі мы ў агромністай стадоле, абкружанай прыгожа аздобленымі брычкамі, санкамі ды калёсамі. Стадола месьціцца ў маляўнічым мейсцы, у лесе, ля ракі й сажалак. Было нас, напэўна, каля 100 чалавек з розных сфэраў дзейнасьці й розных краінаў, сядзелі за простымі драўлянымі сталамі пры сьвечках. Зьелі, можа, 10 цялятаў і сотні смажаных, проста з агню, кілбасак, а пра выпітае казаць ня буду (канфэрэнцыя – справа сур'ёзная). Ну, і скокі, сьмех, весялосьць і беларускія песьні без канца. 80 кавалераў і 20 дзяўчатаў нарасхват. Пазайздросьцяць бы гэтаму балю сам пан Олбюрыхскі й сьвіта ягоная. Толькі каля другой ночы музыкі (дарэчы высокапрафэсыйныя, з кансэрваторскай адукацыяй) зайгралі "Бывайце здаровы, жывіце багата, а мы ад'яжджаем да дому да хаты". Далібог, даўно ў жыцьці гэтак не адпачываў, як тут, у стадоле, у Ліповым Мейсцы. Дзякуй арганізатарам! Бывайце здаровы й жывіце багата, браты-беларусы, і няхай нам не перашкаджаюць ніякія Кітайскія муры...

**Юзэф Русакевіч**

# Там, дзе мяне няма...

*Працяг са старонкі 1*

Лекцыі ў Пэдунівэрсытэце і Унівэрсытэце — занятку хапала! А яшчэ мяне папрасілі стаць сябрам Сэнату Віленскага Унівэрсытэту. Унівэрсытэт дамагаўся права абароны дысэртацыі. Зь літуаністамі праблемы не было, англіст, кандыдат навукаў, таксама меўся, а вось германіста не ставала — „пазычылі" мяне. Я была ў Сэнаце больш 3 гадоў, за гэты час абаранілі адну дысэртацыю ў ангельскай мове, а вось літуаністы пяклі дысэртацыі, як бліны. У сэнаце былі праф. Бальчыноніс, праф. Лебядзіс, ак. Карсакас, дац. Зінкявічус і яшчэ пару чалавек. Абарона адбывалася ў г. зв. „Залі з калюмнамі", пекнай залі ў стылі клясыцызму. На падвышэньні стаяў масыўны дубовы стол й цяжкія крэслы з высокімі разнымі сьпінкамі, у два рады. Калі сядзець у другім радзе, дык з залі не відаць сядзячых там. Аднойчы ак. Карсакас сказаў мне перад абаронаю: „Давайце сядзем у другі рад, я толькі што вярнуўся зь Італіі, магу шмат цікавага расказаць". І ён напрацягу абароны двух дысэртацыяў расказваў мне пра Рым і Пампею. Ясна, мы нічога ня чулі з таго, што гаварыў дысэртант і асьпіранты, прагаласавалі „за". Абарона была звычайнай фармальнасьцю, калі чалавек ужо напісаў работу й яе прыйняў навуковы кіраўнік, прачыталі апанэнты. А недахопы можна знайсьці ў кожнай рабоце.

Былі й цікавыя тэмы й абароны. Напрыклад, абарона доктарскай дысэртацыі З. Зінкявічуса. Пасьля абароны ўвесь сэнат быў запрошаны на прыём у рэстарацыю. Мяне прыемна ўразіла, што Зінкявічус запрасіў на прыём сваіх бацькоў, простых сялянаў. Маці была ў белай хусьцінцы, як іх носяць вясковыя жанчыны. Часта людзі, якія выйшлі зь вёскі й нечага дамагліся, саромяцца сваіх вясковых родзічаў. Зінкявічус быў не з такіх.

Летам і восеньню да мамы прыяжджала шмат наведнікаў: школьнікі, студэнты, пісьменьнікі, мастакі, - хто толькі не наведваў „Лясную хатку"! Прыяжджала Ларыса Геніюш, Данута Бічэль-Загнетава, выкладчык літаратуры Гродзенскага пэдунівэрсытэту Пяткевіч ж жонкай, мастак Ліпень, таксама з Горадні, ён падараваў зімовы пейзаж, які і цяпер вісіць у маёй кватэры. Вельмі запала ў памяць сустрэча з У. Караткевічам. Караткевіч прыяжджаў у Вільню працаваць у архівах, часта бываў у свайго сябра, тады работніка архіву, Генадзя Кісялёва, жыў у Ігнатаўскім завулку ў будынку былога кляштару Дамініканаў. З Кісялёвым быў знаёмы й Тонік. Ён неяк наведаў Кісялёва й сустрэў там Караткевіча. Яны разгаварыліся, і Тонік запрасіў іх у „Лясную хатку". Праз пару дзён Г. Кісялёў і У. Караткевіч прыйшлі да нас у госьці. Спачатку мама, як заўсёды, завяла Караткевіча ў свой пакой. Караткевіч цікавіўся беларускімі назовамі расьлінаў, разглядаў „Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік". Сёе-тое запісваў. Падчас вячэры йшла агульная гутарка, але хутка тон пачаў задаваць Караткевіч. Ён распавядаў пра свае вандроўкі па Беларусі, распавядаў жыва, вобразна, з гумарам і вялікаю любоўю да прыроды й людзей. І толькі, калі гаварыў пра разбураныя або занядбаныя касьцёлы, цэрквы, палацы, паркі, у яго ным голасе чулася крыўда ці нават злосьць, што марнуецца нашая спадчына.


Алеся Смоліч і Зоська Верас. 1967 г.

Пасьля Караткевіч ліставаўся з мамай, прысылаў ёй свае фатаграфіі, сярод іх здымкі зь фільму „Хрыстос прызямліўся ў Гародні", дзе ён граў дзьве невялікія характэрныя ролі: ксяндза й татарскага хана. Мы ўсе зь вялікай цікавасьцю чыталі кніжкі Караткевіча, Луцкевічы пасылалі іх сваім родзічам у ЗША, дзе ён таксама быў папулярны сярод белай эміграцыі.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**

Уладзімір Старчанка

# Дыялёгі або нататкі ў мэтадалёгіі палітычнай дзейнасьці

*Беларускім палітыкам прысьвячаецца...*

*Працяг. Пачатак у № 47.*

## Дыялёг чацьверты

**- Ты што такі смурны?**

- А ведаеш, дружа, расчараваўся я ў сваім новым гадзіньніку!

**- Што, няправільна час паказвае?**

- Ды не, якраз час ён паказваў правільна. Але паспрабаваў я ім цьвік у сценку забіць, дык у яго адразу шкло разьбілася й стрэлкі адваліліся! Нікуды нягодны гадзіньнік!

**- А малатком ты не спрабаваў цьвікі забіваць?**

- А гэта ідэя!!!

***Выснова.*** Не забівай цьвікі гадзіньнікам, мерай ім час! Каб не расчаравацца, выбірай для дзейнасьці адэкватныя сродкі!

***Каментар.*** Мэта вызначае сродкі яе дасягненьня. Калі жадаеш памераць час - карыстайся храномэтрам, калі жадаеш забіць цьвік - карыстайся малатком. Ня трэба спадзявацца на выніковасьць, калі даводзіцца рабіць наадварот. Каб патрапіць на Месяц, недастаткова скарыстаць сілу ног, трэба скарыстаць рэактыўную цягу касьмічнай ракеты. Вялікая мэта патрабуе вялікіх сродкаў. Таму паклапаціся пра адэкватнасьць. І памятай, што адэкватная дзейнасьць забясьпечваецца выкарыстаньнем адэкватных сродкаў.

У рэальным жыцьці бывае вельмі складана разабрацца ў выбары сродкаў. Звычайна людзі схільныя карыстацца тым, што ёсьць пад рукой, а ня тым, чым трэба. Вось чаму зайздроснаму чалавеку лягчэй узяць запалкі (кошт 1 капейка) і спаліць новую суседаву хату, чым зарабіць грошы і пабудаваць сабе лепшую.

***Прыклад.*** Упадабаў дзядзька ў краме прыгожы халадзільнік, але не было ў кішэні грошай. Захацеў дзядзька перанесьці з агароду на вуліцу велізарны камень, але сам не падняў, а сяброў у яго не было. Згуляў дзядзька ў "Поле цудаў", але не хапіла ведаў. Так і застаўся небарака без халадзільніка і «цудаў» і з камянём на агародзе. Проста яму не хапіла рэсурсаў: фінансавых, чалавечых, інтэлектуальных.

***Палітычная аналёгія.*** Каб прыйсьці да ўлады, «аб'яднаная апазыцыя» імкнецца выйграць на выбарах, якія арганізоўвае паводле сваіх правілаў беларускі рэжым. А правілы гэтыя такія: за каго-б рэальна не прагаласавалі выбаршчыкі, пераможцам, усё роўна, будзе прадстаўнік рэжыму. Псэўдавыбары - заганны, неадэкватны сродак. Апазыцыя і ў тэорыі, і на практыцы добра гэта ведае, але ўсё адно ім карыстаецца. Чаму? Гэтага ад яе патрабуюць заходнія і ўсходнія спонсары. Немцам і расіянам трэба, каб у Беларусі адбываліся псэўдавыбары, а для гэтага апазыцыя абавязаная наступаць на граблі. Апазыцыя, канечне, супрацiўляецца такім плянам, але баіцца страціць замежную падтрымку й рэсурсы, таму актыўна ўдзельнічае ў антыбеларускай дзейнасьці. Але ці гэта абвешчаная мэта дзейнасьці аб'яднанай апазыцыі? І ці патрэбны беларускім палітычным арганізацыям рэсурсы, калі яны даюцца толькі пад антыбеларускую дзейнасьць? Рытарычныя пытаньні, але сярод «аб'яднанай апазыцыі» няма сьмельчакоў, каб даць на іх простыя адказы. А калі-б былі, дык зрабілася-б зразумела, што трэба рыхтаваць выбары, а ня ўдзельнічаць у псэўдавыбарах.

Кажуць, што Уладзімір Плешчанка хodзіць па Віцебску з плякатам «Даеш выбары пад пратэктаратам міжнародных арганізацыяў!» Апазыцыянеры зь яго сьмяюцца, кажуць, што занадта складана такіх выбараў дамагчыся (дый рэсурсаў пад гэта ніхто не дасьць), прасьцей паводле завядзёнцы кінуцца ў чарговыя псэўдавыбары. Застаецца толькі зьняць капялюш перад аматарамі фіктыўна-дэманстратыўнай дзейнасьці.

## Дыялёг пяты

**- Дзядзька, ты чаго гнілы памідор ясі?**

- Дык я, гэта, сьпелыя берагу, хай яшчэ паляжаць, а які пачне псавацца, дык я й яго зьем. Мой мэтад эканоміі.

**- Значыцца, ты ясі толькі гнілыя памідоры й не ведаеш смаку сьвежых?!**

***Выснова.*** Нават калі ў цябе ёсьць тона сьвежых памідораў, яшчэ ня факт, што ты пакаштуеш іх на смак. Усё залежыць ад мэтаду спажываньня. Прыкладам, можна есьці толькі гнілыя памідоры, можна есьці толькі свежыя памідоры, можна спажываць салату са сьвежых і гнілых памідораў... Урэшце іх можна зусім ня есьці, а прадаць або перапрацаваць у тамат-пасту. Рэсурсы можна спажываць па-рознаму. Эфэктыўнасьць спажываньня рэсурсаў залежыць ад мэтаду іх выкарыстаньня.

***Камэнтар.*** Калі маеш сродкі для дзейнасьці (рэсурсы), паўстае пытаньне, як найлепш іх скарыстаць. Заўсёды ёсьць мноства спосабаў (мэтадаў) выкарыстаньня рэсурсаў і ня ўсе яны маюць аднолькавую эфэктыўнасьць. Трэба імкнуцца да выкарыстаньня самых эфэктыўных мэтадаў дзейнасьці. Выкарыстаньне дрэнных мэтадаў можа змарнаваць і сродкі-рэсурсы, і самую дзейнасьць, якая ператворыцца ў псэўдадзейнасьць.

***Прыклад.*** Есьць від пчолаў, якія карыстаецца ў барацьбе з шэршнем мэтадам пасьлядоўнага змаганьня. Калі шэршань падлятае да вульля й сядае на паліцу, пчолы-воіны выстройваюцца ў калёну й па адной накідваюцца на ворага. Але шэршань значна большы і мацнейшы за пчалу, і ён лёгка адразае абаронцы вульля галаву. Кажуць, што так паслядоўна ён можа прыкончыць тысячы пчолаў.

Па-іншаму паводзіць сябе ў аналягічнай сытуацыі другі від пчолаў, які выкарыстоўвае мэтад паралельнага змаганьня. Гэтыя пчолы кублом аблепліваюць шэршня, і калі тэмпэратура ўнутры жывога кубла павялічваецца, шэршань здыхае ад перагрэву.

Лёгка заўважыць, што першы мэтад змаганьня марнуе пчаліныя рэсурсы, патрабуе максымум «гераізму», але дае мінімум плёну, а другі, наадварот, захоўвае рэсурсы й патрабуе мінімум «гераізму» пры максымуме плёну.

***Палітычная аналёгія.*** Маючы невялікія дэпутацкія рэсурсы, апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня даволі ўмела выкарыстоўвала спрыяльныя палітычныя моманты й здолела зрэалізаваць многія дзяржаўніцкія ідэалы беларускага народу: была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце, нацыянальная сымболіка ды інш. Нават не ідэалізуючы дзейнасьць апазыцыі БНФ, нельга не прызнаць, што яна дзейнічала «ня лікам, а ўменьнем». Параўнаем ейную дзейнасьць зь дзейнасьцю прадстаўнікоў «аб'яднанай апазыцыі» у Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня. Нягледзячы на сваю немалую колькасьць, яна не знайшла спосабаў (мэтадаў) супрацьстаяньня развалу парляманта, праваліла ідэю імпічмэнту, заваліла дзейнасьць Прэзыдыюма пасьля разгону парляманту, фактычна зруйнавала ўласную легітымнасьць у вачох міжнароднай супольнасьці.

## Дыялёг шосты

**- Гэй, рыбак, ці шмат рыбы злавіў?**

- Ды, ведаеш, ніводнай! Аж зло бярэ.

**- А на што ловіш?**

- На кручок!

**- Вядома, што на кручок. А якую на яго прынаду чапляеш?**

- А што трэба спачатку прынаду чапляць, а потым вуду закідаваць?

**- ?!**

***Выснова.*** Спачатку начапі на кручок прынаду, а потым закідай вуду. Дзейнасьць трэба добра плянаваць, а яшчэ лепш – праектаваць. Прадумай альгарытм дзейнасьці. Добра, калі будзеш папярэдне ведаць, што рабіць у выпадку развіцьця сытуацыі тым ці іншым чынам. Не прадумаўшы стратэгію, тактыку й нават паслядоўнасьць дзеяньняў, лёгка патрапіць у тупік.

***Камэнтар.*** Эфэктыўная дзейнасьць патрабуе праектаваньня. Зыходзячы з мэты дзейнасьці, вызначы галоўныя задачы, падбяры сродкі й мэтады (спосабы) іх вырашэньня. Прадумай паслядоўнасьць вырашэньня задачаў, сплянуй этапы іх вырашэньня (падзялі дзейнасьць на лягічныя ўзаемазалежныя этапы). Прадугледзь шматварыянтнасьць дзеяньняў у залежнасьці ад развіцьця сытуацыі, каб не губляць над ёю кантроль. Праектуй ня толькі дзейнасьць, але і ўмовы ейнага ажыцьцяўленьня.

***Прыклад.*** Будуючы хату, трэба мець хаця-б мысьленны праект ейнай пабудовы. Яшчэ лепш мець дасканалы архітэктурна-тэхналягічны праект і вопытных будаўнікоў. Калі будаваць хату без усялякага пляну, можа атрымацца хлеў або сабачы будан, або нявeдама што. Наяўнасьць мэты й матар'яльных рэсурсаў яшчэ не гарантуе посьпеху. Патрэбны дасканалы плян і вопытныя выканаўцы. У гэтым асьпекце распрацоўка праекту і ягоная рэалізацыя шчыльна звязаныя зь якасьцю і колькасьцю чалавечых рэсурсаў.

***Палітычная аналёгія.*** Рапрацоўваючы праекты прыходу да ўлады, беларускія апазыцыянэры звычайна мала клапоцяцца пра іхную адэкватнасьць і рэалізуемасьць. Прыкладам, арганізуючы выбары прэзыдэнта краіны ў 1999 г., аўтары праекту рабілі стаўку на намэнклятурны пераварот у выніку абвешчаньня ЦВК прэзыдэнтам Нелукашэнкі. Іх мала цікавіла рэальная арганізацыя й правядзеньне выбараў ва ўмовах дыктатуры, бо адразу меўся намер іх сфальсыфікаваць. Гэтак-жа мала цікавіла іх і рэальная падтрымка насельніцтва, якога намэнклятурныя перавароты не цікавяць паводле вызначэньня.

Галоўныя дзеячы праекту напрацягу перадвыбарчай і выбарчай кампаніі дэманстравалі поўную ўпэўненасьць у падтрымцы іхных дзеяньняў вышэйшай намэнклятурай (што псіхалягічна правільна) й абсалютна не зьвярталі ўвагі на рэальнае становішча справаў (што мэтадалягічна цалкам няправільна). Гэта пры тым, што ўжо на этапе вылучэньняў кандыдатаў у прэзыдэнты стала відавочна, што намэнклятура ад удзелу ў праекце ўхілілася. Аднак у выканаўцаў пляну, відаць, не было ў запасе варыянтаў дзеяньняў на такі выпадак развіцьця сытуацыі. Заганны праект пацярпеў крах, і Лукашэнка застаўся на сваім мейсцы. Акрамя таго, былі рэпрэсаваныя многія з выканаўцаў праекту, а адзін зь ягоных кіраўнікоў, верагодней за ўсё, разьвітаўся з жыцьцём. У выніку масавых чыстак намэнклятурных кадраў амаль усе беларусы былі выдаленыя з уладнай вэртыкалі. А ў арганізацыі БНФ «Адраджэнне» быў справакаваны раскол...

Адмоўныя вынікі згаданага палітычнага пректу настолькі пераважылі нешматлікія станоўчыя, што некаторыя аналітыкі пасьпяшаліся заявіць, што яны (адмоўныя вынікі) й былі сапраўднай мэтай праекту! Калі гэта праўда, дык праект трэба разглядаць як прыклад эфэктыўнай антыбеларускай дзейнасьці. Вось яшчэ адна магчымасьць пераканацца ў тым, што мэта вызначае ўсё, у тым ліку й крытэрыі ацэнкі эфэктыўнасьці дзейнасьці.

*Працяг будзе*

Уладзімір Содаль

# Ахвяравальнік

Юны Франьцішак Багушэвіч здабываў веды ў гімназіі ня толькі дзеля ведаў. Яго ўжо ў гімназічныя гады турбаваў лёс краю. Ён ужо тады прыкідаваў, што ён можа зрабіць для сваёй занядбанай радзімы, чым ён будзе карысны для яе. Менавіта ў гімназічныя гады, апрача агульнаадукацыйных навукаў – моваў, матэматыкі, прыродазнаўства – ён штудуе й расейскае правазнаўства. Мабыць, у тыя гады яму якраз упершыню трапляе на вочы "Статут Вялікага княства Літоўскага" – дасканалы звод законаў старажытнай беларускай дзяржавы. Сустрэча з Статутам была для яго незабыўнаю: ён быў напісаны амаль тою самаю моваю, якой гавораць у ягоных Кушлянах і ва ўсім Віленскім краі, а мо нават і далей. От, як-бы цяпер пісалася! Гэтае адкрыцьцё зрабіла ў душы юнага Франьцішака цэлы пераварот. Ён пачаў прыглядацца ды прыслухоўвацца да ўсяго, што рабілася ў краі, хто якія думкі выказваў пра "Северо-Западный край". Цікавыя былі для яго развагі графа Яўстаха Тышкевіча. Менавіта ён ствараў у Вільні ў тыя гады Віленскі музэй старажытнасьці. Франьцішак па-юнацку шчыра далучыўся да заснаваньня гэтага музэю. Ён ахвяраваў нават гістарычнай скарбніцы колькі каштоўных рэчаў. Сярод іх – гадальнік славянскі, ядро, крыж з стараславянскім надпісам, акамянелую ракавіну, тры старажытныя манеты.

Было гэта ў 1856 г. Юнаку з Кушлянаў было тады ўсяго толькі 16-ць, але ён ужо, як бач, нейкім чынам назапасіў цэлую калекцыю цікавых рэчаў, разумеў іхную каштоўнасьць для гісторыі краю. Тады-ж імя юнага Франьцішака было занесенае ў кнігу ганаровых ахвяравальнікаў. Менавіта зь яе мы й даведаліся пра Франьцішкавы ахвяраваньні.

Уладзімір Крылоўскі

# Хопіць! Абрыдлела! Можна, нарэшце, пра што-небудзь іншае?

У дзяцінстве мне неаднойчы даводзілася бываць на сустрэчах з былымі вязьнямі гітлераўскіх канцлягераў. Тыя, хто прайшоў Асьвенцым, Майданэк, Трэблінку, Матхаўзэн, дзяліліся сваімі жахлівымі ўспамінамі... І што ўрэзалася ў памяць, гэта тое, што амаль усе яны ў нейкі момант свайго аповяду пачыналі плакаць...

Усе, хто меў кантакт з прайшоўшымі фільтрацыйныя лягеры, чачэнцамі, бычылі ня раз, як цяжка ім варушыць перажытае. Пачуцьцё незваротных стратаў – фізычных і маральных – захлынвае іх, перапаўняе усьведамленьне несправядлівасьці, а галоўнае – цалкавітая абсурднасьць таго, што зь імі здарылася. Іх душаць сьлёзы, у горле – жорсткі камяк...

Гэтыя паралелі могуць быць працягнутыя. Вынікі абсьледаваньняў былых вязьняў канцлягераў, праведзеных у пасьляваенныя гады савецкімі й эўрапэйскімі спэцыялістамі, у ва многім супадаюць з вынікамі абсьледаваньня спэцыялістамі былых вязьняў фільтрацыйных лягероў (абсьледаваныя былі ахвяры "фільтраў" першай чэчэнскай вайны). І ў першай, і ў другой катэгорыі абсьледаваных (амаль у аднолькавых статыстычных прапорцыях) назіраліся сталыя й абсалютна аднолькавыя адхіленьні ў псыхічным здароўі. Прабываньне ў расейскім фільтрацыйным пункце аказвала на псыхіку вязьня такое самае ўзьдзеяньне, як і прабываньне ў фашысцкім канцлягеры (*www.groups.yahoo.com/group/Chechnya-sl, 06.02.02., «Facts are accusing»*).

* * *

Гітлераўскія канцлягеры... Жудаснай плямаю ганьбы ўвайшлі яны ў Гісторыю, як дакор усяму чалавецтву на стагодзьдзі... Здавалася, такое ўжо ня можа паўтарыцца! І вось цераз паўвека фашызм зноў уладна заяўляе пра сябе, зноў у Эўропе, зноў на вачох ва ўсяго цывілізаванага сьвету, пры маўклівай згодзе (амаль што пасрэдніцтве) дэмакратычных дзяржаваў. Урады гэтых дзяржаваў, сарамліва апускаючы вочы, робяць выгляд, што нічога не заўважаюць, і гэта пры тым, што інфармацыя пра жахі, твораныя Расеяй у фільтрацыйных лягерох, рэгулярна зьяўляюцца ў заходніх СМІ, Інтэрнэце, некаторых расейскіх выданьнях...

Цікавы погляд грамадзкасьці Захаду на гэтую страшную праблему, прычым погляд гэты ёсьць аднолькавы для ўсіх заходніх краінаў: «Хопіць! Абрыдлела! Можна, нарэшце, пра што-небудзь іншае!?» Мая перакладчыца з Каліфорніі – пажылая інтэлігентная амэрыканка, што спаведуе Хрысьціянства – папрасіла не даваць ёй больш на пераклад гэтых «катавальных страшылак», таму што яна міжволі пачынае ненавідзець расейскіх вайскоўцаў, а «нянавісьць, як вядома, брудзіць душу». Зручная пазыцыя, ці ня так?

А між тым, шаноўны чытач, у той самы момант, калі ты прабягаеш вачыма гэтыя радкі, у «фільтрах» Чэчэніі, а таксама ў «фільтрах», разьмешчаных на прылеглых да яе тэрыторыях, вязьняў (тых, каму на гэты час выпаў допыт) катуюць токам (электроды звычайна прымацоўваюць да палавых ворганаў, вушэй, носу, патыліцы, падмышачнай вобласьці – да самых адчувальных мейсцаў). Ім заганяюць пад паўзногці іголкі. Спэцыяльна адпрацаванымі ўдарамі разбураюць пячонку, селязёнку, ныркі... Іх душаць, надзеўшы на галаву поліэтыленавы пакет. Ім пласкагубцамі ў кроў плюшчаць языкі, застаўляючы потым есьці гарачую пераперчаную баланду... Ім расьпільваюць напільнікамі зубы, цьвікамі прыбіваюць языкі да драўлянага стала... Ім могуць (проста так, каб паглуміцца) адсекчы руку або нагу, адсекчы пальцы, выкалаць вока, адрэзаць вуха ці язык... *(ГИА «Чеченпресс», 02.06.01, Доклад министра здравоохранения ЧРИ доктора Умара Ханбиева).*

Вось поўны тэкст інтэрвію, якое праваабаронца Віктар Папкоў (застрэлены невядомымі ў Чэчэніі ў красавіку 2001 г.) узяў у свойчас у нядаўняга вязьня «фільтра» Чарнакозава

*(Матэрыял прышоў к аўтару от правозащитной организации «Бостонский Комитет Против Этнических Чисток», США).*

* * *

*РАМЗАН* (імя выдуманае):

У красавіку 2000 г. на блокпосьце ў Новых Атагах мяне спынілі. Дакуманты мае былі ў парадку, але яны западозрылі ў ва мне баевіка й затрымалі, па-сутнасьці, за тое, што я – чэчэнец. Завялі ў бліндаж і адразу біць. Білі да страты сьвядомасьці. Ачомаўся ў бетоннай яме 2 на 1,5 мэтры. Там было яшчэ два чалавекі. Яны сказалі: «Ты – у Чарнакозава!» Нас зьбівалі ўвесь час, таму іхных прозьвішчаў ня памятую...

Мяне абвінавацілі «ва ўдзеле ў незаконных бандфармаваньнях», хаця я ніколі не ваяваў. Дапытавалі звычайна тры чалавекі: адзін нешта пісаў, астатнія зьбівалі. Білі штодзень, часам два разы на дзень. Сухары й вада, рэдка каша. Я ня ўвесь час у яме сядзеў: у закінутым памешканьні былі абсталяваныя камэры. У камэры 4 на 5 мэтраў, часам нават 3 на 2 мэтры, літаральна штабелямі бывала набіта па 20-25 чалавек. Камэры часам залівалі вадою й пускалі ток. Калі мы йшлі па калідорах, нас у шахматным парадку зьбівалі дубінкамі ці кованымі ботамі.

У часе наведаньня ў Чарнакозава камісіяй Рады Эўропы, нас пагрузілі ў вагоны й некалькі сутак вазілі па чыгунцы ў розных накірунках...

Зь мяне зьдзекаваліся за тое, што я адмовіўся прызнаць сябе баявіком й падпісаць, што яны хацелі. Як зьдзекаваліся? Палілі цыгарэтамі й распаленым жалезным прутам, разразалі нажам скуру на сьпіне, пашкодзілі страўнік, ныркі, зламалі рэбры, адрэзалі ўказальны палец на правай руцэ... Усё гэтае дагэтуль не зажыло... Мяне прывязвалі да сетачнага жалезнага ложка, накідавалі мокрую прасьціну й пускалі ток. Я адразу аглох на правае вуха – лопнула барабанная перапонка.

Некаторых саджалі на стул, прыбіты да слупа, крэпка фіксавалі галаву, і з краніка зьверху у адно тое самае мейсца пачынала капаць вада. Я чуў крыкі мужчынаў, якіх гвалцілі. Часам у камэру пускалі сабакаў і маленькіх цялятаў, каб яны ссалі палавыя ворганы ў зьвязаных і прыкаваных да батарэі голых мужчынаў. Былі й іншыя ненармальнасьці... Ёсьць і гэткае катаваньне: чалавеку цераз горла пускаюць у нутро вельмі жукоў... Я бачыў шмат што іншае, вельмі жахлівае...

Сваякі зь цяжкасьцю сабралі 2,5 тыс. даляраў і цераз пасрэднікаў выкупілі мяне. Слава Алаху, адпусьцілі яны мяне за гэтыя грошы (прасілі 5 тыс.). Ніякіх папераў пра маё прабываньне ў Чарнакозава не далі, але вярнулі пашпарт. Гэта было напрыканцы ліпеня, дакладнай даты ня памятую: з галавою ў мяне кепска цяпер... А яшчэ першым часам гаварыць было цяжка, заікаўся... Вельмі цяжка ўспамінаць пра ўсё!.. Не магу!..

* * *

Паводле дадзеных Таварыства вязьняў фільтрацыйных лягероў (аказваецца ёсьць і такое!), у першую чэчэнскую вайну цераз «фільтры» прайшло 25 тыс. чэчэнскіх грамадзянаў. Зь іх 1.700 чалавек было расстраляна, 1.580 чалавек прапала бязь вестці, 6.420 чалавек жывымі вярнуліся дамоў, 1.500 зь якіх маюць адкрытую форму туберкулёзу, а 500 прыкавана да ложку ў выніку зьнявечаньняў, атрыманых у працэсе катаваньняў. *(www.groups.yahoo.com/group/Chechnya-sl, 06.02.02., «Facts are accusing»).*

У другую чэчэнскую вайну, згодна афіцыйных дадзеных ураду ЧРІ, ужо на лета мінулага году расейскія "фільтры" прапусьцілі цераз сябе 80 тыс. чэчэнцаў (арыштаваных, як і ў папярэднюю вайну, толькі на падставе нацыянальнага паходжаньня), з каторых болш 40 тыс., у асноўным мірныя грамадзяне, зьнішчаныя без суда, 20 тыс. бязьследна зьнікла. *(ГИА «Чеченпресс», 02.06.01, Доклад доктора Умара Ханбиева).*

Жахлівыя лічбы! Колькасьць людзей, сьвядома й мудрагеліста скалечаных іншымі чалавечымі істотамі (і гэта ў наш цывілізаваны век!) лічацца сотнямі тысячаў! Ужо можна гаварыць пра фэномэн, пра зьяву, якая сталася неад'емнай часткаю расейскага жыцьця. Грамадзтва зьмірылася з тым, што ў краіне бесконтрольна дзейнічае магутная карная сыстэма, выбарна, паводле этнічнага прынцыпу, скіраваная на пэўную групу грамадзянаў. Ды што там расейскае грамадзтва! Фэномэн расейскіх фільтрацыйных лягероў зрабіўся неад'емнаю часткаю Навейшай Гісторыі, ён арганічна ўвайшоў у жыцьцё сусьветнай супольнасьці, заняў там сваю нішу. Зь ім мірацца, яго церпяць, на яго амаль дэманстратыўна заплюшчваюць вочы!

*Працяг будзе*

Валянцін Грыцкевіч

# Вяртаньне літаратурнага даглядчыка

Зноў у Беларусь вяртаюцца бэндаўскія часы (быў калісьці літаратуразнаўца з наганам Лукаш Бэндэ, каторы цкаваў Купалу й Коласа, і зьвёў пад корань дзясяткі, калі ня сотні, беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў). Сёньня творы В. Быкава, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, С. Законьнікава ў адабраных гвалтам у Саюза пісьменьнікаў Беларусі часопісах забараняе друкаваць – хто-б падумаў? – былы функцыянэр ЦК КПБ, каторы даглядаў за літаратураю, а потым, трасучыся ад спалоху, пакінуў у 1991 г. будынак гэтай жалезнай установы, – Эдуард Скобелеў. Пісьменьнік, як пісьменьнік, але не В. Быкаў, не Н. Гілевіч, не Р. Барадулін. І вось ён зноў апынуўся у старым, родным яму гмаху. Як-жа, ён з 1996 г. галоўны рэдактар "Информационного вестника администрации президента", лаўрэат джяржаўнай прэміі РБ 1998 г. І вось зноў Скобелеў шчоўкае пугай. Ягоныя довады, чаму ня трэба друкаваць нашых знакамітых літаратараў, добра вядомых (у адрозьненьні ад Скобелева), як у Беларусі, так і па-за ейнымі межамі, – досыць "цікавыя": "Яны згубілі сябе ў літаратурнай творчасьці..." Толькі графаману Э. Скобелеву, якому ніколі ўжо "не згубіцца ў творчасьці", і меркаваць пра творчасьць волатаў беларушчыны! 15 траўня 2002 г. на канфэрэнцыі ў Менску Э. Скобелеў заклікаў не друкаваць творы вядомых пісьменьнікаў, кажучы, што "шэраг літаратараў" вядзе "шалёную атаку" на справу аб'яднаньня літаратурных часопісаў пад рупліваю рукою кіраўніцтва дзяржавы (гэтай "найясьнейшай кароны", гаворачы словамі Дуніна-Марцінкевіча), што гэтая атака ёсьць "працяг палітычнай барацьбы" й што названыя пісьменьнікі "перайшлі да палітычнай дзейнасьці, у якой яны нічога не разумеюць" ("Народная воля" № 91, 17 траўня 2002 г.).

Як гэта не разумеюць? Цудоўна разумеюць, што ўводзіцца кантроль дзяржавы над словам і думкаю, паводле мэтада Жданава й Гэбэльса. Толькі вось фігура для кантролю абраная мізэрная, ня ў прыклад з названымі "геніямі бязьлітасьці". А "шалёная атака", сапраўды, ідзе, толькі ня з боку "шэрагу літаратараў", а збоку нахабнай (вядома якім чынам узбагаціўшайся) вяршаліны цяперашняй беларускай улады. Атака на беларускасьць, атака бязьлітасная й безаглядная. Э. Скобелеў сьцьвярджае, што ён аналізаваў творчасьць Быкава, Гілевіча, Барадуліна, Законьнікава. Які-ж ён аналітык, калі сам прызнаецца, што ён палітык? Аналітык падобны да хіміка, а палітык – да алхіміка. А ў доказах Скобелева – суцэльная алхімія, падтасоўка фактаў, маніпуляцыі напёрстачніка (што, наогул, зьяўляецца цяпер стылем кіраўніцтва краінай: хлусьня, вывёрткі, звальваньне правалаў на кагосьці).

Вышэй я згадваў Лукаша Бэнду. Хто зараз яго памятае, апрача гісторыкаў гарапашнай беларускай літаратуры? Але ў таго хоць патроны ў нагане былі з кулямі. А вось у пераемніка Бэнды нават куляў няма. Прашу прабачыць, але ад выступленьняў Скобелева ў мяне такое адчуваньне, нібы каналізацыйны сьцёк прарвала – суцэльнае слова-блудства партапаратчыка. Чаго варты ягоны заклік да "новых сілаў, якія прынесьлі з сабою... сьвежы вецер ідэяў (напэўна тых самых "ідэяў", што ня так даўна спавядалі скобелевы й падобныя да яго, седзячы ва ўтульных крэслах ЦК КПБ – *В. Г.*), замест перапеву заходніх канцэпцыяў". І зноў сьцьверджаньне, што "Быкаў, Гілевіч, Барадулін, Законьнікаў не разумеюць у палітычнай дзейнасьці".

Выходзіць, толькі ў Адміністрацыі прэзыдэнта сядзяць адныя мудрацы, якія разумеюць у палітыцы. Разумее яе (у адрозьненьні ад колішняга шматгадовага сакратара Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі й старшыні камісіі культуры й адукацыі Вярхоўнага Савету РБ 12 скліканьня Ніла Гілевіча) й носьбіт партфэляў за начальнікамі Э. Скобелеў. Зрэшты, які гаспадар, такі й лёкай.

 



## III Канфэрэнцыя беларусаў Балтыі






*Івонка Сурвілла размаўляе зь Вітаўтасам Ландсбергісам.*

Адбылася 13-14 ліпеня ў Вільні ў памешканьні былой Віленскай Беларускай Гімназіі (Базыльянскія муры). У ёй прынялі ўдзел каля 150 дэлегатаў і гасьцей зь Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расеі, Польшчы, Беларусі, Францыі, Бэльгіі, Англіі, Канады, ЗША, Аўстраліі. Кнфэрэнцыя была арганізаваная сіламі Таварыства беларускай культуры ў Літве. Пачатак работы форуму віталі чальцы літоўскага сойму, Ладсбергіс, Юршэнас, Станкевіч, былі зачытаныя прывітальныя лісты ад прэзыдэнта Літвы Адамкуса й шматлікіх беларускіх арганізацыяў далёкага замежжа. Праца працягвалася два дні, у часе якіх былі заслуханыя выступленьні кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў замежжа, беларускіх навукоўцаў і палітыкаў. Гаворка пераважна йшла пра заклапочанасьць беларускай дыяспары палітычным становішчам на Бацькаўшчыне, пра анексію Беларусі Расеяй, пра становішча беларускай мовы й становішча з правамі чалавека ў Беларусі. Напрыканцы работы канфэрэнцыі былі прыйнятыя наступныя дакументы: 1) Рэзалюцыя аб вяртаньні Літвой экспанатаў Беларускага музэя імя Івана Луцкевіча ў Вільні, ліквідаванага савецкімі ўладамі ў 1945 г.; 2) рэзалюцыя аб пагрозе незалежнасьці Беларусі; 3) Зварот да Эўразьвязу; 4) Пратэст у сувязі з закрыцьцём радыё "Рацыя"; 5) Заява "У новай Эўропе не павінна быць заслонаў". Дэлегатам канфэрэнцыі была прапанаваная багатая культурная праграма.

**Павал Саўчанка**

# Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні

*Заканчэньне. Пачатак у № 47.*

**Беларускае нацыянальнае сьвята – багаслужба ў касьцёле.**

На беларускую багаслужбу ў касьцёле, здаецца, Сьв. Мікалая, з нагоды сьвяткаваньня 25 Сакавіка йшлі ўсе, жывыя духам, беларусы: каталікі, праваслаўныя й "бязбожнікі". Служыў па-лаціне беларускі сьвятар, гаварыў па-беларуску гарачую патрыятычную казань, усе прысутныя пяялі гімн "Божа, што калісь народы паасобку падзяліў...".

**На Дзяды. Паломніцтва на магілу Ядвігіна Ш., што на Росах.**

Ужо халаднаватым восеньскім вечарам – на Дзяды – памятаю на могілках Росы, ля магілы Ядзьвігіна Ш., сабралася вялікая грамада беларусаў. Шмат хто трымаў у руках запаленыя сьвечкі, у мяне сьвечкі не было. Усе сьпявалі беларускія патрыятычныя й рэлігійныя гімны – каталіцкія, бо-ж праваслаўных беларускіх гімнаў не было. На Дзяды з году ў год на магілу Ядзьвігіна Ш. арганізована йшлі ў паломніцтва ўсе беларусы, ня толькі студэнты. Цікава, ці цяпер магіла Ядвігіна Ш. на Росах дагледжаная ці забытая й невядома, дзе знаходзіцца? Да вайны яна была беларускім "шрайнам" – сьвятым мейсцам. Кожнаму народу скрозь трэба мець свой "шрайн" – сваё сьвятое мейсца. У Канадзе мы яго маем, збудавалі беларускі памятны Крыж і помнік Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі ў Martyrs' shrine in Midland, ntario.

**Міжнародная пілігрымка ў Кальварыю.**

Апошнім тыднем Вялікага посту перад Вялікаднем праз Вільню йшла міжнацыянальная пілігрымка ў Кальварыю. Людзі йшлі нацыянальнымі групамі, і, каб беларуская група была як мага лічнейшай, асабліва студэнты йшлі абсалютна ўсе, ня толькі каталікі, а і праваслаўныя, і "бязбожнікі". Адзін зь сябраў БСС Стась Грынкевіч, гарачы беларускі патрыёт, ужо даўно не жыве, – у Кальварыі перад кожнай стацыяй Крыжовай Дарогі Езуса Хрыста ставаў пабожна на калені, што зьвяртала ўвагу ягоных сяброў, між імі й так званых "бязбожнікаў".

**Канцэрт М. Забэйды-Суміцкага.**

Запрашаў слаўнага беларускага сьпевака ў Вільню й арганізоўваў канцэрт, як я разумела, Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні, але, напэўна, вялікі ўдзел у гэтай справе мела й старэйшае беларускае грамадзтва, як Антон Луцкевіч ды іншыя дзеячы. Канцэрт адбываўся ў опэрнай унівэрсытэцкай "Залі Сьнядэцкіх". А Максім Танк пісаў Забэйду Суміцкаму:

*Пойдзеш ты ня раз па сьвеце зь песьняй,*
*Воплескі рассыплюць табе градам,*
*Але не забудзеш ты Палесься,*
*Не забудзеш край свой на імшарах.*

**Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча ў Вільні**

Адыграваў у жыцьці сяброў БСС вялікую ўзгадаваўчую ролю. Прафэсар беларускай мовы й літаратуры ў Віленскай Беларускай Гімназіі Антон Луцкевіч рабіў студэнтам даклады, школіў іх быць праваднікамі ў музэі. Так, ведаю, бо бачыла, што мая сястра Валянціна Жукоўская была праваднічкаю ў залі са зброяй Вялікага княства Літоўскага. Расказваючы пра зброю, яна гаварыла й пра гісторыю Вялікага княства – Беларусі. Сябры БСС прывозілі ў музэй з іхных мясцовасьцяў экспанаты. Прыкладам, Ніна Ляўковіч з Шанёў, цяпер Абрамчык, жонка былога прэзыдэнта Рады БНР інжынера Міколы Абрамчыка, падарыла ў музэй поўны народны палескі строй, Людовіка Будзьчанка, цяпер Бяленіс, мастачка, падарыла па-майстэрску, з высокім мастацтвам вырысаваныя ўзорам колерныя вялікодныя яйкі. Пэрыядычна Беларускі Музэй быў адкрыты для наведаньня жыхаром Вільні. Тады ў музэі было поўна беларускіх студэнтаў, яны выконвалі функцыі праваднікоў, ды іншыя. Адзін з найбагацейшых музэяў Вільні, Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча, у 1939 г. Сталін аддаў Летуве, і яна яго прысабечыла. Без дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі беларускія культурныя каштоўнасьці акупанты направа й налева грабяць і абвяшчаюць грабеж легальным, праўным. Як кажуць: "Сваё дзяржаўнасьці ня меўшы, лягай спаці ня еўшы".

**Баль трох саюзаў.**

Штогод, у мясаед, калі студэнты вярталіся з калядных вакацыяў, тры студэнцкія саюзы – Беларускі, Лятувіскі і Украінскі – ладзілі славуты "Баль трох саюзаў". Падзея была не абы якая, усе йшлі на баль. Мы, дзяўчаты, прыстроіўшыся, як маглі, у адпрасаваных гранатовых спаднічках, у якіх хадзілі на выклады, надзеўшы, як я, белыя блюзечкі, прыходзілі групай на баль. Бальная заля – цудоўная! Уся быццам шкляная, асьветленая жырандолямі, знаходзіліся мы, нібы ў сьне ці ў раі. Грала аркестра, хлапцы як з-пад зямлі зьяўляліся перад намі. І той украінскі мэдык, што прыходзіў на выклады права, сядаў побач і ўзіраўся мне ў вочы. Пэўне, гэта-ж быў "Баль трох саюзаў", дык і украінцаў было поўна. Мы ў такт музыкі йшлі ў танцы. Ногі ледзь дакраналіся наваксаванай падлогі, а душа лётала ў сьветлай шкляной прасторы. Рамантычна, хораша на душы! Але вось грымнула "Лявоніха"! Уся заля кінулася ў скокі, сто ці дзьвесьце маладых параў! Між імі й я з Суганам. Але на Сукцыніса ўзяў мяне ў скокі лятувіс. Не памятаю мэлёдыі Сукцыніса, памятаю толькі пад канец ягонае "Мажа!" ("мала!"). "Баль трох саюзаў" пакінуў у душы незабыўны прыгожы сьлед.

**Зьлёт на самакатах у Палесьсі.**

Было гэта летам 1938 г. БСС арганізаваў зьлёт на самакатах на Палесьсі. Першыя зьявіліся ў нас у Пружане на роварах Таня Трафімучанка. Так недзе з-пад Вільні. Тут зраблю невялікую дыгрэсію. Цікава, што зусім натуральна ў тыя часы студэнты, дый ня толькі, усе людзі ў Заходняй Беларусі, праўда, з улікам палешукоў з Пружаншчыны, гаварылі правільна прозьвішчы па-беларуску. Калі бацька Трафімчук – дык дачка Трафімучанка, калі Катковіч – Каткавічанка, Карнюк – Карнючанка. А цяпер... Але вернемся да зьлёту сяброў БСС. Сабралася нас так чалавек з трыццаць, думаю, праўда, разам з палешукамі з Пружаншчыны. Ехалі ад вёскі да вёскі ў напрамку Белавежы. Затрымоўваліся ў вёсках на начлег. Гасьцінныя беларускія сяляне дазвалялі нам начаваць у клунях на сене. У іх мы куплялі хлеб, малако, масла. З нас, палешукоў, наваградчанк дый далей віленчукі сьмяяліся, што ў нас "чорная карова дае белае малако"... Ехалі зь вёскі да вёскі й расказвалі сабе анэкдоты, а, можа, і праўду. Пытае падарожны ў селяніна: "Колькі вёрст будзе да наступнай вёскі?" Селянін адказвае: "Было чатыры, два пастухі спалілі, засталося два!" Дзесь каля Белавежы, прыехаўшы цягніком, далучыўся да нас мэдык Вітаўт Тумаш, бяз ровэру. Справа бяззровэрнага Вітаўта вырашылася так: Таня Трафімучанка, шчупленькае, невялічкае, але здольнае й разумнае дзяўчо, аддала свой самакат-ровэр вялікаму й высокаму ростам Вітаўту, а сама езьдзіла на раме, калі не наймацнейшага, дык найбольшага Мітрафана (Мацея) Смаршчка – паэты Бярозкі, які пасьля стаў выдатным лекарам у ЗША. І так, у адной вёсцы, пераначаваўшы на сене й зьбіраючыся ў далейшую дарогу, стаім усе з ровэрамі ў руках і размаўляем зь мясцовымі жанчынамі – куплялі ў іх хлеб ды малакою Жанчыны бачаць, што ўсе мы ў руках трымаем самакаты, а ў Тані яго няма. Жанчыны ў адзін голас пытаюцца, а як яна? Кажам ім, што лёганькая Таня бяжыць за намі. "Ах, Божачкі, Бажачкі!" – дзівуюцца й бядуюць добрыя кабеты.

**Разьвітаньне з праф. Кошмідэрам, апекуном БСС.**

Вясна 1939 г., экзамены. Да таго пагрозьлівыя гутаркі ды весткі па радыё пра вайну зь Нямеччынай. Праф. Кошмідэр, апякун БСС й немец паводле паходжаньня, выяжджае ў Нямеччыну. Мы грамадою прыйшлі да цягніка разьвітацца з добразычлівым да нас Кошмідэрам. Купілі букет кветак. Далі іх мне ў рукі. "А што я маю сказаць?" – пытаюся. "Мы скажам на разьвітаньне, а ты толькі ўручыш кветкі". На гэтае я пагадзілася. Паехаў праф. Кашмідэр і на сэрцы зрабілася сумна. Закончылася эра ў гісторыі Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. Разьехаліся беларускія студэнты на летнія канікулы па розных мясцох Заходняй Беларусі й больш не вярнуліся ў Вільню. Прынамсі, мы зь сястрой. Шмат хто з нас навекі адыйшоў з гэтага сьвету...

**Раіса Жук-Грышкевіч**
*Бэры, Канада, 14 красавіка 2002 г.*

 

## Вітаўту Кіпелю – 75!



*"Вітаўт Кіпель". Мастак Мікола Рыжы. Лінарыт, 1993 г.*

Нядаўна вядомаму грамадзкаму дзеячу беларускай эміграцыі, доктару геалёгіі, гісторыку, бібліёграфу Вітаўту Кіпелю споўнілася 75 гадоў. Нарадзіўся ён 30 траўня 1927 г. у Менску ў сям'і беларускага дзеяча, біёляга й пэдагога Яўхіма Кіпеля (1896 - 1969). Калі Вітаўту было тры гады, ягонага бацьку арыштавалі паводле справы "Саюза Вызваленьня Беларусі" (СВБ) і ў 1931 г. выслалі ў г. Налінск Вяцкай вобл. У 1935-42 гг. Вітаўт разам з маці жыў у Арле. У 1942 г., калі немцы занялі Арол, сям'я Кіпеляў вярнулася ў Менск. З 1944 г. Вітаўт Кіпель – на эміграцыі. У 1945-48 гг. ён вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Розэнгайме (Заходняя Нямеччына). У 1953 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі, атрымаўшы спэцыяльнасьць геоляга. З 1956 г. жыве ў ЗША. У 1962 г. скончыў Ратгерскі ўнівэрсытэт у Нью-Брансвіку й працаваў у бібліятэцы ў Нью-Ёрку. Тут ён займаўся складаньнем і апрацоўкаю беларускай бібліяграфіі. Вітаўт Кіпель зьяўляецца сябрам амэрыканскіх навуковых таварыстваў славяназнаўцаў і бібліятэкараў, абіраўся старшынём Нацыянальнай канфэдэрацыі амэрыканскіх этнічных групаў, у 1978-82 гг. узначальваў Этнічны дарадчы савет пры губэрнатары штату Нью-Джэрсі, а з 1982 г. зьяўляецца дырэктарам БІНІМа (Беларускага ўнівэрсытэту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку.

Вітаўт Кіпель аўтарытэтны вучоны ў галіне гісторыі й культуры беларусаў і іншых славянскіх народаў, напісаў шэраг працаў з гісторыі Беларусі й беларускай эміграцыі, нямала артыкулаў вучонага зьмешчана ў розных энцыкляпэдычных даведніках. Калі Беларусь атрымала незалежнасьць, пачаліся кантакты Вітаўта Кіпеля з Радзімай. Ён браў рупны ўдзел у Міжнародным кангрэсе беларусістаў у 1999 г., у Міжнароднай канфэрэнцыі "Культура беларусаў замежжа" ў 1994 г., у Трэцім зьезьдзе беларусаў сьвету ў 2001 г. Сам я пазнаёміўся зь Вітаўтам у 1993 г. у часе Першага зьезду беларусаў сьвету. Пасьля не аднаго разу сустракаўся зь ім падчас іншых канфэрэнцыяў. Вітаўт Кіпель і ягоная жонка Зора некалькі разоў наведалі бацькоўскі край. Бацька Зоры, вядомы беларускі дзеяч, настаўнік, журналіст Лявон Савёнак, нарадзіўся ў вёсцы Вялец, што знаходзіцца за мястэчкам Лужкі па дарозе на Глыбокае. У траўні 2000 г. Кіпелі наведалі Шаркаўшчыну й завіталі ў Германавіцкі музэй мастацтва й этнаграфіі, пазнаёміліся з працамі славутага беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Вось які запіс пакінулі яны ў музэйнай кнізе водгукаў: "З прыемнасьцю й зь вялікім гонарам за нашую мінуўшчыну агледалі гэтую выдатную мясьціну ды даведаліся гэтульки новага, цікавага. Выдатная праца й – наша Вам падзяка. З Злучаных Штатаў Амэрыкі, Вітаўт і Зора Кіпелі". Госьці спаткаліся з заснавальніцай музэю Адай Райчонак.

"... доктар Вітаўт Кіпель – яркая асоба міжнароднага маштабу XX-XXI ст. ст. Ён адзін з тых, хто захоўваў беларушчыну на эміграцыі, хто распаўсюджвае інфармацыю пра невядомую сьвету Беларусь. Ён спрыяе разьняволеньню нашай краіны, падтрымлівае беларусаў у барацьбе за волю. Ён быў адным з тых, хто дапамагаў Таварыству беларускай мовы", – піша намесьніца старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч ("Наша Слова" № 21, 5 чэрвеня 2002 г.). Пажадаем юбіляру посьпехаў на ніве навуковай, асьветніцкай і грамадзкай. Будзем спадзявацца, што Вітаўт і Зора Кіпелі й надалей будуць падтрымліваць цесную сувязь са старажытнай зямлёй Дзісеншчыны.

**Кліменьці Кажан**
*м. Германавічы*

# НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ У СВАБОДНАЙ ЭЎРОПЕ

***Ліпеньскі Сойм Партыі БНФ ухваліў «Эўрапейскую ініцыятыву» Фронту***

На чарговым паседжаньні, якое адбылося 13 ліпеня ў Менску, Сойм Партыі БНФ ухваліў «Эўрапейскую ініцыятыву», з дакладам пра якую выступіў старшыня партыі Вінцук Вячорка. Сярод іншага, В.Вячорка заявіў:

«Палітыка Лукашэнкі, скіраваная на стварэньне гэтак званага «саюзу Расеі і Беларусі» пры забесьпячэньні самому сабе палітычнай будучыні, пацярпела крах. Расейскае кіраўніцтва выставіла яму ўльтыматум: альбо Беларусь уваходзіць у склад Расейскай фэдэрацыі, альбо ўся стратэгія стварэньня «саюзу» пераглядаецца. Што гэта значыць на практыцы, патлумачыў Прымакоў: не імгненная, а паступовая страта сувэрэнітэту. Такім чынам, маем сытуацыю адначасовага рэзкага аслабленьня пазыцыі Лукашэнкі й узросту пагрозы страты сувэрэнітэту.

Рэакцыя беларускіх палітычных колаў і каляпалітычных журналістаў на новую сытуацыю вартая шкадобы. Яна двух тыпаў. Адны паціху пераконваюць ісьці на ўгоду з Лукашэнкам: ён, маўляў, ня сёньня-заўтра стане незалежнікам, бо няма куды яму падзецца. Другія радасна пераконваюць усіх, што з Расеі нам прынясуць сьвятло дэмакратыі, а нават беларускую незалежнасьць будуць бараніць Пуцін зь Пехцінам.

Абедзьве ідэі шкодныя. Першая - ілюзорная: Лукашэнка прывязаны да Расеі праз грошы, кадры, кампрамат, уласнае мысьленьне. Паглядзіце, як ён распраўляецца з сапраўднымі незалежнікамі: Маркевічам, Івашкевічам, Пушкіным, Хадыкам. Лукашэнка працягвае разбураць беларускую эканоміку, законнасьць, культуру, самую дзяржаўнасьць, і калі гэта будзе працягвацца, замест Беларусі неўзабаве будзе тэрыторыя для газаправодаў - чыясьці лёгкая здабыча.

Другая ідэя гэтаксама ілюзорная й шкодная для беларускага грамадзтва, якому зноў прапануюць казачку. Ільля Мурамец і Дабрыня Нікіціч - Пуцін з Прымаковым - зробяць усё за нас: і Лукашэнку нам скінуць, і незалежнасьць нам гарантуюць, а мы, паводле чужаземнай казачкі, будзем на печы ляжаць. Беларускае грамадзтва зараз актыўна дэмабілізуюць і дэбілізуюць.

БНФ мае адказ на пуцінскі ўльтыматум. Для Беларусі адзінае выйсьце - гэта вярнуцца ў Эўропу ня толькі цывілізацыйна (мы ў ёй і так знаходзімся), але і арганізацыйна. Мы ня згодныя зь лёзунгам «разам з Расеяй - у Эўропу», бо нам да Эўропы бліжэй нават геаграфічна. Нам ня трэба фальшывы саюз з Расеяй «на ўзор Эўразьвязу» (а насамрэч - на правох Башкартастану), нам трэба сапраўдны Эўразьвяз. І нам трэба сяброўства ў НАТО.

Увайшоўшы ў Эўразьвяз, мы ўваходзім у заканадаўчае поле, якое гарантуе нам рэальны сувэрэнітэт, адкрые нашыя межы для выезду ў цывілізаваны сьвет, дасьць свабоду прадпрымальніцтву й дарогу інвэстыцыям, а значыць, прынясе нашаму народу рэальны дабрабыт. Нашая адукацыйная сыстэма ўніфікуецца з эўрапейскаю, мы ўваходзім у агульназэўрапейскую інфармацыйную прастору, нашая мова набывае ахову як эўрапейскі культурны набытак. А ўвайшоўшы ў НАТО, мы набываем магутны шчыт, які абароніць нашую незалежнасьць і спакой ад замахаў любых імпэрыялістаў і тэрарыстаў.

Нам ня трэба ўніфікаваць заканадаўства з расейскім. Нам неадкладна трэба пачынаць уніфікаваць нашыя законы з эўрапейскімі, рыхтавацца да будучага ўступленьня ў эўраструктуры ўжо цяпер, працягваючы змагацца за дэмакратыю ў краіне. Незалежная Беларусь у свабоднай Эўропе - вось фронтаўскі адказ на выклік часу».

Сойм даручыў кіраўніцтву, Праграмнай камісіі, Камісіі грамадзкіх сувязяў Партыі БНФ тэрмінова распрацаваць канкрэтныя прапановы па кірунках: «Эўрадабрабыт», «Эўразакон», «Эўрабясьпека», «Эўраэкалёгія» ды інш. Акрамя таго, Сойм ухваліў папярэдні сьпіс будучых кандыдатаў на мясцовыя выбары па г. Менску.

***Прэс-рэліз Партыі БНФ***

## Дарота Рыжы

сяброўка аддзелу БАЗА ў Нью- Ёрку, у 1999 г. скончыла Цэнтральны Эўрапэйскі Ўнівэрсытэт у Будапэшце. Перш ёй прапанавалі працу ад Дэпартаманту права ў гэтым самым унівэрсытэце, але яна прыйняла прапанову стацца праўным дараднікам у Арганізацыі Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе, база якой знаходзіцца ў Варшаве. Як праўнік і наглядальнік за правамі чалавека, Дарота Рыжы дзейнічала ў такіх складаных краінах, як Таджыкістан, Кіргізія й Азэрбайджан. Летась яна ачольвала групу азэрбайджанскай дэлегацыі. Цяпер Дарота Рыжы знаходзіцца з камісіяй ва Узьбекістане. У сямействе Рыжых заўсёды была цяга служыць беларускай справе.

**"Цыркуляр" № 48,**
25 траўня 2002 г.

## 56-ты агульнагадавы Зьезд

Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбыўся 22 чэрвеня 2002 г. Гэты дзень пачаўся з сумнай навіны: сябры ЗБВБ дазналіся, што 20 чэрвеня ў Таронта памёр Уладыка Мікалай. Уладыка Мікалай даўно ўжо жыў у Канадзе, але ён зьяўляўся адным з пачынальнікаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Раніцай 22 чэрвеня перад адкрыцьцём зьезду айцец Аляксандар Надсан адслужыў малебен у знак сьветлай памяці Уладыкі Мікалая. Айцец Аляксандар сказаў, што заўсёды шкада губляць такіх асобаў, якім быў Уладыка Мікалай, але ёсьць нагода падзякаваць Богу за такога чалавека. Уладыка Мікалай быў сьветлым і самахвярным чалавекам, памяць пра яго застанецца ў сэрцах беларусаў назаўсёды. На жаль, Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі за апошні час страціла пяць сваіх сяброў, якія адышлі ў лепшы сьвет. Сябры ЗБВБ ушанавалі памяць пра іх хвілінаю маўчаньня.

Зьезд ЗБВБ адбыўся ў залі Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Лёндане. Адкрыла зьезд старшыня Згуртаваньня спадарыня Алена Міхалюк. Яна перадала слова айцу Аляксандру дзеля малітвы. Пасьля была абраная мандатная камісія ў складзе спадароў Баяроўскага, Будкевіча і Ясьвіловіча, якія падцьвердзілі, што кворум ёсьць, а гэта азначае, што зьезд можа лічыцца высокім. У склад прэзыдыюма на зьезд былі абраныя: спадар Швэдзюк – старшыня, спадары Шаўцоў і Пяткевіч – сакратары. Затым спадар Пяткевіч адчытаў Пратакол з папярэдняга 55-га зьезду, які адбыўся 14 кастрычніка 2001 году.

Затым Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі спадарыня Алена Міхалюк зачытала справаздачу ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ. Як адзначыла спадарыня Міхалюк, за мінулы год адбыліся чатыры паседжаньні Галоўнай Управы, большасьць справаў вырашалася праз тэлефон. Мінулай восеньню Згуртаваньне наладзіла сустрэчу з беларускім рэжысэрам Віктарам Дашуком, які прывёз і прадэманстраваў зьняты ім новы фільм пра палітычную сытуацыю ў Беларусі. 1-га сьнежня мінулага года адбылася акадэмія з нагоды ўгодкаў Слуцкага паўстаньня. Ад імя беларусаў Вялікай Брытаніі спадарыня Міхалюк перадавала на радыё "Свабода" калядные і навагодняе прывітаньне ўсім беларусам сьвету. На зьезьдзе быў зачытаны ліст, які Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі даслала Каралеве Элізабэт II з нагоды 50-ці гадовага юбілею каранаваньня.

Старшыня Прэзыдыюму зьезду спадар Швэдзюк падзякаваў спадарыню Міхалюк за дакладную справаздачу, а таксама нагадаў усім прысутным, што спадарыня Міхалюк зьўляецца ня толькі Старшынёю ЗБВБ і таму мае шмат клопатаў. Яна таксама прэзэнтуе беларусаў Вялікай Брытаніі за мяжою падчас сваіх падарожжаў і апякуецца ўсімі беларусамі, хто мае ў гэтым патрэбу. Напрыклад, беларускія студэнты, якія вучацца ў Манчэстэры, не адчуваюць сябе пакінутымі, дзякуючы спадарыні Алене. (Ад сябе магу зазначыць, што і мая сям'я таксама знайшла прытулак у гасьцінным доме спадарыні Алены ў мінулым годзе).

Пасьля справаздачаў аўдытара і з Беларускіх дамоў спадар Баяроўскі прачытаў справаздачу Наглядны Рады. Аднагалосна было прынятае рашэньне падзякаваць Галоўнай Управе ЗБВБ за самаадданую працу.

У новую Галоўную Управу былі абраныя: спадарыня Алена Міхалюк – старшыня, спадар Павал Шаўцоў – заступнік старшыні, спадар Сяргей Пяткевіч – скарбнік, спадарыня Алена Сенька – сакратар, спадарыня Джоан Дзейка – сябра Управы.

Новую Наглядную Раду вырашылі пакінуць у папярэднім складзе. У склад Рады ўвайшлі спадары Швэдзюк, Баяроўскі і Будкевіч. На заканчэньне зьезду абмяркоўваліся розныя справы. У тым ліку было вырашана, што на чарговы Зьезд Беларусаў Балтыі, які адбудзецца ў сярэдзіне ліпеня, ад беларусаў Вялікай Брытаніі паедуць спадарыня Алена Міхалюк і спадар Ігар Лабацэвіч. На закрыцьцё Зьезду ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

*Ад імя Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі,*
**Лілія Сазанавец**

## Памёр на 85-ым годзе жыцьця

Мітрапаліт, Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, **Уладыка Мікалай.** Памёр у шпіталі Таронта. Быў гэта чацьвер, а ў нядзелю, 16 чэрвеня, Уладыка Мікалай адслужыў яшчэ ў БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта Сьв. Літургію – у апошні раз даваў вернікам Сьвятую Эўхарыстыю. Так, відаць, было ў пляне Божым, даць Уладыку Мікалаю магчымасьць адпраўляць Вялікапостныя й Велікодныя Багаслужбы й апошнюю Багаслужбу перад сьмерцю якраз у царкве Кірылы Тураўскага ў Таронта, дзе 48 гадоў таму назад ён, айцец Міхаіл Мацукевіч, распачаў сваю душапастарскую дзейнасьць Багаслужбай 4 кастрычніка 1954 г. Быццам Бог сказаў гэтым Уладыку Мікалаю: «Well done!» 22 чэрвеня пачаліся пахавальныя Багаслужбы, разьвітаньне беларусаў Канады з сваім верным Душапастырам. Цела згодна яго волі будзе спачываць на беларускім могільніку імя Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Джэрсі (ЗША).

***"Камунікат" № 2, ліпень 2002***

## Юры Весялкоўскі Халодная вайна

У дадатку да ангельскай газэты "Дзі Таймс" "Калчэр" за 12 траўня 2002 г. паведамляецца пра выхад кнігі Дэвіда Стафарда "Спайс бэніц Бэрлін" ("Шпіёны пад Бэрлінам"). Была гэта цікавая гісторыя. Як вядома, Другая сусьветная вайна закончылася перамогай саюзьнікаў над Нямеччынай. Вораг быў пабіты, пакараны, а ягоныя саўдзельнікі таксама атрымалі пакараньне. Здавалася, ворагаў ужо няма й застаецца жыць спакойна ды цешыцца асягнутаю перамогаю. Аднак незадоўга праявілася непрымірымая варожасьць паміж саюзьнікамі. 24 чэрвеня 1948 г. пачалася блякада Бэрліну Саветамі з мэтаю выгнаць саюзьнікаў з іхных сэктараў гораду. Тады павісла г. зв. "жалезная заслона", якая аддзяліла камуністычны сьвет ад рэшты сьвету. На савецкую блякаду амэрыканцы й брытанцы адказалі масыўнай паветранай дастаўкаю ежы, паліва й іншых неабходных рэчаў для 2,4 мільёнаў немцаў у сваіх акупацыйных сэктарах. Зроблена было 153.530 паветраных палётаў у Бэрлін. Сталін прызнаў непаводжаньне свае блякады й зьняў яе ў траўні 1949 г. У тым самым 1949-ым быў створаны блёк НАТА, але ён не ўяўляў рэальнай сілы. Паабапал "жалезнай заслоны" суадносіны сілаў выглядалі як 125 на 14 дывізіяў – на карысьць СССР. Была гэта праблема для заходніх эўрапэйскіх краінаў. Ускладалася надзея на ЗША й іхную атамную бомбу, як на галоўнага саюзьніка, калі раптам дойдзе да вайны з Савецкім Саюзам.

"Халодная вайна" пачалася. Савецкі Саюз ад даўжэйшага часу верыў, што камунізм можа запанаваць толькі ў выніку вайны й зьнішчэньня капіталізму. А ў Злучаных Штатах спадзяваліся, што камунізм і Савецкі Саюз заваляцца яшчэ да таго, як распачнецца новая сусьветная вайна. Аднак і Савецкі Саюз, і ЗША распачынаць вялікую вайну баяліся, бо баяліся той новай зброі, якім быў атам. Напрыклад, адна падводная лодка несла ў сабе большую зьнішчальную сілу, чым усе бомбы, скінутыя ў часе Другой сусьветнай вайны. Таму Савецкі Саюз правакаваў да распачынаньня войнаў меншыя камуністычныя краіны супраць краінаў капіталістычных ды аказваў ім сваю дапамогу. Гэтак пачалася ў 1950 г. Карэйская вайна ды шмат дзе на азіяцкім і афрыканскім кантыненьце пачаліся збройныя канфлікты.

Скл аліся такія абставіны, што заходнім саюзьнікам трэба было зьмяніць свае адносіны да немцаў, нядаўніх сваіх ворагаў, і іхных "калябарантаў" з Усходу, бо "халодная вайна" пагражала вайной гарачай. Як камуністычная Масква, так і антыкамуністычны Вашынгтон і Лёндан, зьвярнулі ўвагу на нямецкіх палітыкаў, навукоўцаў і інжынэраў, шукалі іх, каб выкарыстаць іхныя веды дзеля сваіх навуковых досьледаў і тэхналёгіі. А Сталіну карцела яшчэ ў вайну, каб як найбольшую колькасьць сваіх грамадзянаў, што былі варожыя да камуністычнай сыстэмы, вярнуць з Захаду. Напачатку заходнім аліянтам гэтае было на руку, каб ня мець клопату й коштў утрыманьня гэтых людзей – і так было пастаноўлена Вялікай тройкай у Ялце.

Заходнім саюзьнікам пашанцавала, калі да іх патрапіў нямецкі ген. Гелен, які загадваў нямецкай разьведкай за лініяй Усходняга фронту. Па вайне ягоныя людзі засталіся на Ўсходзе й слалі свайму босу інфармацыю, якою Гелен дзяліўся з заходнімі саюзьнікамі. Па вайне савецкія рэпатрыяцыйныя місіі свабодна разьяжджалі па лягерох уцекачоў у Заходняй Нямеччыне, што паходзілі з Савецкага Саюзу, і намаўлялі іх вярнуцца на радзіму, а некаторых дык і выкрадалі. Камуністы мелі сваіх шпікоў у гэтых лягерох. Генэрал Гелен, каторы добра ведаў настроі савецкіх уцекачоў, дарадзіў заходнім палітыкам выкарыстаць іх, а сярод іх і беларусаў, дзеля выкрыцьця савецкіх шпіёнаў у лягерох. У такой сытуацыі, якая нагадвала вайну, заварушыліся заходнія аліянты, каторыя яшчэ нядаўна аддалі Сталіну мільёны савецкіх грамадзянаў, шукаючых прытулку на Захадзе, на яўную сьмерць і пакуты. Цяпер гэтыя людзі, праціўнікі камуністычнай сыстэмы, былі патрэбныя Заходу, але іх ужо было ня так многа. Неўзабаве пачаліся пошукі ахвотнікаў-дывэрсантаў сярод іх.

Быў пачатак 1950 г., калі й я атрымаў ліст ад ачольніка Беларускага Вызвольнага Фронту, сп. Зарэчнага, у якім ён прасіў мяне спаткаць яго аднаго вечара на станцыі Вікторыя ў Лёндане. Спатканьне адбылося. Па дарозе да ягонай кватэры, што была недалёка ад станцыі, Зарэчны зайшоў у краму, купіў трунак, закуску, і, калі мы падыходзілі да ягонага жытла, сказаў мне крыху застацца аддаду й, як ён расчыніць дзьверы хаты й пераступіць парог, скочыць усьлед за ім. Як ён сказаў, так я й зрабіў.

Зарэчны займаў адзін вялікі пакой. Мне ў вочы трапіла навенькая пішучая машынка на стале зь беларускім кірылічным шрыфтам. Варта сказаць, што сапраўднае прозьвішча Зарэчнага было Людовік Галубовіч, які быў менскім энкавэдыстам. У вайну быў паранены ў нагу, патрапіў у палон, і немец хацеў яго, як энкавэдэшніка, застрэліць, але Галубовіч адпрасіўся ад сьмерці. Так мне, прынамсі, расказваў сам Галубовіч-Зарэчны. Паказаў мне свой дыплём маёра Беларускай Краёвай Абароны (БКА) й некаторыя здымкі беларускіх афіцэраў у іншых арміях. Калі мы выпілі па кілішку, Зарэчны прыступіў да справы. Ён ведаў, што я зьяўляюся сакратаром арганізацыі Хрысьціянская Аб'яднаньне Беларускіх Работнікаў Вялікабрытані (ХАБР), ведаю людзей з нашае арганізацыі й буду яму дапамогаю. Зарэчны папрасіў мяне даць адпаведных кандыдатаў на дывэрсантаў. На гэтае я яму адказаў проста, маўляў, калі-б гэта была вайна Захаду з Савецкім Саюзам, дык я дапамог-бы яму, а закідаць людзей у мірны час, як дывэрсантаў, гэта пасылаць іх на яўную сьмерць. Тут Зарэчны ня вытрымаў і мацюкнуўся на мяне, але зараз-жа перапрасіў і сказаў, што ён хацеў пабачыць, як я зарэагую на яго. Я зарэагаваў спакойна, быццам нічога не здарылася. Увесь вечар і ўсю ноч мы правялі пры стале, гаворачы пра нашыя беларускія справы, і толькі раніцою, калі пачала хадзіць падземная чыгунка, я паехаў дамоў. Зарэчны доўга ня быў у Англіі, паехаў у Нямеччыну, скуль прыехаў. Вёў са мною перапіску й, як я ажаніўся, прыслаў у сакавіку 1953 г. тэлеграму з пажаданьнямі. Па некаторым часе я даведаўся, што Зарэчны памёр.

Як беларусаў, так і другіх ахвотнікаў з Савецкага Саюзу, амэрыканцы школілі на дывэрсантаў у Нямеччыне й засылалі іх на радзіму. Але ніхто зь іх не вярнуўся назад. Ангельскія разьведчыкі Джордж Блэйк і Гарольд Фільбі працавалі на карысьць савецкага боку й давалі знаць, калі й дзе будуць скідаць на парашутах дывэрсантаў, і на іх ужо чакалі. Пра беларускіх дывэрсантаў, якіх злавілі, пэўны час пісала газэта "Голас Радзімы".

Калі ў 1956 г. у Лёндан мелі прыехаць Хрушчоў з Булганіным, да мяне, як да сакратара ХАБР, прыйшлі двух англічанаў са свае разьведкі й пыталіся, ці плянуе нашая арганізацыя нейкую злачынную дзейнасьць супраць "гасьцей" з Масквы? Я сказаў, што ХАБР не займаецца злачынствамі, а займаецца матар'яльнай дапамогай сваім суродзічам ды праводзіць беларускую нацыянальную работу. Тады адзін з гэтых англічанаў папрасіў даць яму часопіс "Аб'еднаньне", які выдавала арганізацыя.

У часе "халоднай вайны" амэрыканскія інжынеры пракапалі пад Бэрлінам тунэль, да тэлефанічнай лініі, і ўсе загады, якія йшлі з Масквы ў Галоўную кватэру Чырвонай Арміі ў Нямеччыне, браліся на плёнку. Джон Лофтус у сваёй кніжцы "Дзі Беларус Сікрэт" ("Беларускі Сакрэт") крытыкуе беларускіх дзеячоў на эміграцыі за супрацоўніцтва з фашыстамі, але піша, што калі ў 1953 г. быў прапаны гэты тунэль, дык беларусы перамлумачвалі шматтомную савецкую размову на ангельскую мову. Іншыя займаліся досьледамі й перакладамі для Джярждэпартаманту і ўрадавых агенцыяў. 22 красавіка 1956 г. рускія даведаліся пра тунэль й выкарыстоўвалі яго для дэзінфармацыі. Захад-жа трактаваў тунэль як сваё дасягненьне, перакананы, што мае аб'ектыўную інфармацыю адносна савецкай палітыкі ў дачыненьні Бэрліна ды пра іншае.

Палітыка "халоднай вайны" доўжылася ад 1948 па 1991 г. У пару Гарбачова ў Савецкім Саюзе пачалі адбывацца зьмены. Хаця Савецкі Саюз уяўляў зь сябе ў тым часе магутную мілітарную сілу, але эканамічна ён адставаў ад ЗША й іншых эўрапэйскіх краінаў. Маўсцовая прадукцыя не магла задаволіць патрэбы насельніцтва, дый была нізкай якасьці. Ва ўсходнеэўрапэйскіх краінах, дзе камунізм быў гвалтоўна накінуты Масквой, стаялі часткі Чырвонай Арміі, а дзесяцігадовая вайна ў Аўганістане сталася трагедыяй для савецкага народу й аслабляла й без таго слабую эканоміку краіны. І калі Гарбачоў даў знаць сваім сатэлітам, што СССР ня можа далей аказваць ім дапамогі, дык іхная камуністычная сыстэма зламалася. Народы замянілі рабства на свабоду, што сталася і ў самай Маскве ў жніўні 1991 г., дзякуючы таму, што армія ня стала на бок старога камуністычнага рэжыму.





*Купалінка з Корвенскага возера. Сьвятлана Цераховіч, выпускніца Майшагальскай сярэдняй школы.*

**Умовы падпіскі:**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны* чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* **10 000 196 490.**

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпісчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас у Менску:

*Александар Стральцоў, 220050 Менск, п/с 26.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпісчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.


Адрас для допісаў:
**«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania**
**e-mail: editor@runbel.lt**


**Ахвяраваньні на газэту:**

| | | |
|---|---|---|
| М. Пецюкевіч зь Італіі | EURO | 25 |
| К. Акула з Канады | USD | 30+30 |
| М. Пашкевіч з Канады | USD | 50 |
| В. Станкевіч з Амэрыкі | USD | 40 |
| М. Швэдзюк з Англіі | USD | 50 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў


**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
заснавальнік **Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца **Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі: Taikos, 50-29, 2017 Vilnius
тэлефон: (+ 370 5) 216 10 62
факс: (+ 370 2) 42 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня **UAB «Dumsa»**, Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад **1000**